ББК 84Бел7
Б 24

Новая книга поэзии Рыгора Бородулина «Одиночество паломничества» начинается одноименной поэмой о Франциске Скорине, леро-поэмой — так оригинально поэт определил жанр своего произведения. Судьба белорусского первопечатника показана как малая частица того богатства — утерянного или еще не обнаруженного,— с которым во все времена был духовно богат наш народ. Стихи и новеллы, как продолжение и завершение книги, композиционно дополнили упомянутую поэму, хотя тематика их разнообразна.

Б $\frac{4702120202-006}{М 302(03)-90}$ 44–89

ISBN 5-340-00380-9

# Самота паломніцтва

## Лера-паэма

...иже мя милостивый Бог
с того языка на свет пустил.

### а

Толькі пакутніцкі лёс
Мае на памяць права!
Імем зямлі і нябёс
Дзейсніцца вечная справа —

Справа на ўсе вякі,
Што засталіся ў людства.
Поўняцца часу глякі
Жвірам прароцтва,
Люцтва,
Жвірам адчаю, тугі,
Жвірам смугі, самоты.
І на свае кругі
Вернуць пясчынку рашоты
Вечнасці.
І ланцугі
Любасці і пяшчоты
Злучаць два берагі,
І на свае лугі
Пчол павяртацьмуць соты,—

Руплівасці мудрых пчол
Тых, што пылок пазнання
З іншапланетных чол
Будуць збіраць.

Старанне
Іхняе ўбачыць
Бог.
І засвітае ў часе
Постаць,
Што за парог
Цемрачы выйшла,
Зракласея
Вечнае сумятні,
Вечнае забароны.

Тлеп, ападзі,
Не кранi
След ад ступні
Ягонай!

. . . . . . . . . .

Фаўстаў нашчаднік
Францыск
Шэпча сваёй Маргарыце.
Робіцца друкам ціск.
З'яўлены ў дрэварыце
Першы канкрэтны твар
У Біблii,
А не воблік.
Лекар асветай,
Друкар
Не з-за лятучых воблак —
З Полацка сын Лукаша
Тога, што жыў з кірмаша,
Што давяраўся долі,
Тога, ў каго з каша
Пнуўся вятох на волю,
Тога, ў каго з каўша
Брага лілася доле,
Тога, што змог адзін

Торкнуць свае два грошы
У Кракаў ажно,
Каб сын
У доктарскае ахарошы
Лекаваў колькі мог
Душы людскога сабора.
Маладзічковы рог
Быў Лукашу за апору.

## б

У хаце смачна пахне пірагамі.
Званы Сафеі небу б'юць хвалу.
Развітвацца са шкурай
І з рагамі
Вядома што не хочацца валу,
Ды шкура скора пойдзе
На пергамент,
Папура адвісеўшы на калу.

Ва ўласнай шкуры
Ўвесь астатні статак
Пасецца ля аціхлай Палаты.
Пергамент зберажэ нашчадкам
Статут,
Дзе беларускай мовы
Дух святы
Асвечаны Скарынавай рукою
І апладнёны
Млечным Шляхам дум.
Паслухай,
Як рыкае за ракою
Сагнаны ў статак
Стогадовы сум.

. . . . . . . . . . . . . . .

Ільсніцца футра пільсцю маразяна
У сховах палачаніна
Купца
Лукі Скарыны,
Каб на плечы пана
Свайго а ці заморскага
З канца,
З прысвётку свету легчы
Недзе ў Рызе,
Яна суседка —
Як падаць ракой
Дзвіной,
Што ў туманах,
Нібыта ў рызе,
Да неба не павернецца спіной,
А дасць сваё найменне
Дзвінаборгу,
Ці Дзюнабургу.
Ад яе лукі
У свет плывуць чаўны.
Дай, Божа, торгу
Для вернага раба твайго Лукі!

В

Цягне маўклівасці як
Бочку —
Вадзе не праліцца.
Доўга гісторыя,
Як
Полацкая маладзіца,
Будзе высвечваць цень,
Панаскіпаўшы лучыны,
Каб асвяціўся дзень,
Дзень нараджэння Скарыны.

Каб атрымаць адказ
З вуснаў самой таямніцы,
Хоць бы акрэсліць час —
Сёмуха ці Грамніцы?
Пырнік і ўвесь асот
Блытанасці
Гаспадыня,
Нібы ўтравелы гарод,
Выпале,
Толькі б год
Хуткі быў на паміне.

Праўда,
І дзень, і год
Сонечнага зацьмення
Полацак помніць,
Код
Гэта які
Ці знаменне:
Маладзічковы след
Сонечнае аблічча
Значыць.
Маўчыць партрэт,
Леты, магчыма, лічыць
Думнага спадара
У доктарскім годным берэце,
Нібыта кажа:
«Пара
Апавясціцца ў свеце.
Што яму дзень і год!
Сонца і тое,
Прарочы
Ўчуўшы яго прыход,
Ціха заплюшчыла вочы».
Гэта іпюў памачнік
Сонцу —

Удвох у змроку
Лепей.
А след не знік —
Бачыцца вечнаму зроку.

Год нараджэння?
Калі
Русь адбялілася,
Белай
Стала.
Па ўсёй зямлі
Крыўская слава бегла.
Беляць палотны,
Каб
Кужаль кунежыў цела,
Каб аж да крохту скаб
Дух не здаваўся.
Бела
Доле й на небясі —
Снежна
І Млечнашляха.
Большая
Белай Русі
Наканавана плаха.

Гэта над полаза віск,
Які патурбуе Еўропу,
Вызначыць
Пан Францыск
У Кракаве па гараскопу.
Гора з капу
Гараскоп
Вызначыць Беларусі?
Тых не палічыць коп
Гора
І неба, мусіць.

Будуць хаваць у капцы
Славу яе і слова
Хіжага гандлю купцы,
Радцы падступных ловаў.
Будзе шукаць траву
Ад забыцця народа
Уласнага йімя ў раву
Пражскім —
У садавода
Клопат такі стары
Будзе ў любой нагодзе.

У кіцялях святары
Аж праз чатыры стагоддзі
Вешаць пачнуць ярлык
Мніха і цемрашала,
Будзе халуйскі язык
Злей ад змяінага джала.
Жывіцца вечнасць якраз
З часу,
З яго даніны,
Мы, беларусы,
Раз
І назаўсёды павінны
Помніць —
Да дамавіны —
Час нараджэння нас—
Час нараджэння Скарыны.

Г

О, як радасна мову рабіць
На багата стагоддзяў славутай!
Шкарлупіну знявагі разбіць —
І пасыплюцца звонкай валютай

З залатога арэха нябёс
Гукі гукаў,
Як тыя ядзерцы.
Мова тая,
З якой ты ўзрос,
У цябе
І ў Айчыны на сэрцы.

Сцвердзіць гэтая мова
Пасля
Горды Статут Вялікага княства.
Беларусаў святая зямля
Словы крылкія вышле,
Як птаства
Ў статут,
Нібыта ў вырай вякоў,
Каб вярталіся ў душы нашчадкаў.
У яе на паноў, мужыкоў
Хопіць,
Покуль гучыць яна,
Спадкаў!

Гэту мову і край
У цяжбе
Цягнуць нашы суседзі да поту,
Нібы коўдру ўначы,
На сябе,
За вякі не спагнаўшы ахвоту.

Цягнуць так
Ад цямна да святла
Сваякі і суседзі
У зморы,
Аж свіціцца яна пачала —
І на дзірках,
Як лапікі, зоры.

А Францыск прымяраў,
Прыміраў
Словы,
Што з-за Дзвіны, з-пад Ушачы,
Бласлаўляючы мову,
Міран,
Ратнікаў і ратаяў на ўдачы.

На якое стагоддзе пазней
У карчме
З Чарнаручча дзяўчына
Кручаная, што тая ляйчына,
Запяе, памінаючы жней:
— *Ой, мамачка, я прапала —*
*Любіць мяне хто папала,*
*І рускія, і палякі,*
*І ўсякія пабасцякі...*

Кутнік прышлы,
Прымака і зяць
З завядзёнкай асвечанай
Даўняй
Звыклі хлопскай,
Мужыцкаю зваць
*И наречьем великой державной*
Мову нашу,
Якая са дна
Дзіўнабоскай паганскай асновы,
Як крыніца забіла,
Яна
У славянскае цноце адна
Кожны гук ацаліла вясновы.

Д

Святар,
Для асланення склаўшы ксты,
Змаўкаў,
І мова боскі храм дзівіла.
І Жыгімонт стары
Пісаў лісты
На мове нашае
Да Радзівіла.

І Кміта-Чарнабыльскі каралю,
Магнатам і чыноўнікам дзяржавы
Лісты па-беларуску слаў,
Зямлю
Сваёй лічыў,
Не пазычаў ёй славы.

А потым праваслаўнікі
З царквы,
Каб дзверы уніяцтва
Зняць з крукамі,
Прагналі мову,
Даўшы ёй правы
Араць,
Касіць,
Вадзіцца з жабракамі;
Яшчэ спяваць,
Паднёсшы каравай,
І думаць,
Статак гонячы на пашу.
*Северо-западным*
Назвалі край
І дыялектам людскай
Мову нашу.

І новай веры
Новым пастухам
Зусім не трэба
Ведаць мову краю.
На людскай мове
Спавядайся, хам!
І з моваю сваёй
Не прыся ў храм,
Адна ёсць мова —
Лашчыць і карае!

## ДЖ

...Кіруючыся набожным жаданнем і наважыўшыся надрукаваць і выдаць на рускай мове святое пісанне, прыбыў да масквіцян. Гэтыя кнігі былі публічна па загаду князя спалены, таму што былі выдадзены падданым рымскай царквы і ў месцах, якія не падлягаюць яе ўладзе. Такая ўселена ў гэты народ непрыязнасць да лацінскага і рымскага імені...

Інструкцыя, у адпаведнасці з якой
каралеўскі пасол мусіць гаварыць
з рымскім папай

Баіцца ерасі Масква
У слове, што надрукавана
Самім антыхрыстам.
Царква
Ад конніка да каравана
Падазраваць павінна ўсіх,
Бо ў праваслаўнай
Права славы
Належыць ёй,
А каб не ціх
Шал недаверу,

Ёсць рухавы
Чырвоны певень —
Пад страху
Пусці яго —
І толькі попел
Маўчыць,
А пеўню б хоць крыху
Пакукарэкаць у Еўропе,
Бо асмялелі скразнякі,
І ўсе з Еўропы,
Ўсе з Заходу.

Масковія на ўсе замкі
Замкнёная,
І ўсе дзякі
Бліщчаць,
Як тыя медзякі,
На Русь наводзячы лагоду.

Ідзе здалёк
Культур сутык,
Каб дротам замяніць вярыгі.
А тут гусіцкі ерэтык
Надрукаваць святыя кнігі
Пасмеў
Уперад ад Масквы
У Вільні, ў скамянелай Празе.
Адвернецца ад галавы
Такой сякера
У абразе,
Бо ёй даводзіцца сячы
Куды цяжэйшыя галовы.
— Сачы, сачы! —
Не спяць сычы
І злой начы
Сляпыя совы.

Гром грымне,
А пакуль яшчэ
Масковія —
Цямрэчны хутар.
З нярускім іменем цячэ
Рака.
І ў Вітэнбергу Лютэр
Устрашыўся ерэтыка,
Збег у Таргау.
Пра Францыска
Легендаў пацячэ рака
Ля сціхлых старыц праўды
Блізка.
Пагоніць Лютэр слоў брую,
І, зайздрасць глушачы цяжкую,
Ён следам Біблію сваю
Перакладзе і надрукуе...
І ерась —
Толькі пыл і прах —
Ляціць з агню-ўсёжэрцы
Прыскам.
Над сынам Полацка Францыскам.
Друкар сустрэчы гэтай праг.

Пакуль што Фёдараў расце,
Каб ехаць ерасі набрацца
Ў Скарынаў край,
Дзе ў дабраце
Усім як ёсць дарадца —
Праца.

. . . . . . . . . . .

Няхай жыве пажар да хмар!
Ва ўсе вякі,
Ва ўсе часіны
Над тленам тлену валадар

За ўсіх прымаць
Віны цяжар
Звык, чырванеючы,
Адзіны
Віноўца чорных спраў,
Распраў,
Зямное і нябеснай кары.
І Праметэй агонь украў
У бога
З марай пра пажары.

. . . . . . . . . . . . .

Няхай нязводны будзе мор,
Які бяжыць хутчэй за чутку!
Дзе думка з цёмнага закутку
Пасмела вылезці на двор,
Дзе непадкупнасці дакор
Не чысціць хлусу чаравікі,
Туды пашлі, ўладыка, мор,
Мор слепатой усёвялікі.

Пажар лацвей ракой тушыць,
Як не ракой,—
Затушаць морам.
Мор дужы ісціну глушыць.
Няхай усё дрыжыць пад морам!

Во! Мор ідзе — пяе жарства,
Пакуль ён спіць, нахабны сорам,
Крок люты слухае Масква.
Надыдзе і палёт да зор.
І зменіць мор чарговы мор...

. . . . . . . . . . . .

Не на чэраве аперазь,
На чале аповязь роздуму.

Надымай свой позірк,
Ерась,
Смутак твой дарэмна рос, таму
Што з цябе бярэ пачатак
Рэчка ў неспакойным рэчышчы.
Ты — бяльмо старых сятчатак,
Што расце, сябе ж адпрэчыўшы.

На чале — святла аповязь.
Промень,
З цемрай сілай мерайся.
Пачынай сваю аповесць,
Ерась,
Прыраджэнка ерасі.

Хай гудзе душэўны верад,
Як пчаліны рой на верасе.
Ерась,
Смела мкніся ўперад.
Новы дзень —
Хаўруснік ерасі.

Аж хістаецца эпоха,
Зачыняюцца ашчэры ўсе.
Верачы ў нязрушнасць бога,
У душы не бойся ерасі!

Крыл крамольніцкіх аперась
Птушанятам сніцца ў шэрасе.
Хай жыве святая ерась!
Свет глядзіць вачыма ерасі.

ДЗ

Спяшаўся коннік,
Гонка конік бег.
Не даганялі беглага ці кнехта.
Гаштольду ў Вільню
Выслаў Кёнігсберг
Пісьмова
Крыўду герцага Альбрэхта.

Калі сышоў з высокага двара
Скарына,
Клікаiы дамоў самотай,
Яўрэя-лекара і друкара
Ён ад Альбрэхта звёў з сабой
Употай.

Магістр апошні ордэна Тэўтонаў
Пісаў,
Каб ваявода даў загад
Скарыну — ўцекачоў вярнуць назад,
Жадаючы Гаштольду
Толькі плёнаў.

І ўказ свой каралеўскі
Жыгімонт
Аддасць
І граматамі сцвердзіць згоду,
Азначыць прывілеі ўсе
Наконт
Скарыны —
Даць ва ўсім яму свабоду!

Больш за чатыры месяцы
Францыск
Праседзіць вязнем

У турме ў Пазнані.
І захаваецца судовы іск
І звестка з Прагі ўскосная
Пазна́я.

Папера захавае,
Колькі суд
Юхтовых, чымшавых,
Яшчэ й рысіных
Прысудзіць шкур Францыску.
Цуг пакут
Расцягнецца.
Віноўных і нявінных
Людзей —
Купцоў, магнатаў ды пісцоў
З сабою ў вечны шлях
Узяў імёны.
І не злічыць ганцоў
З усіх канцоў,
Што хочуць бачыць
Кожны след ягоны.
Змясціла свет
Скарынава сляза,
Скарынаў воблік
Час зрабіў іконай.
Пылінкі звестак —
Прах і драбяза
На зорных строях
Велічы Ягонай.

е

У Полацку ў траўні і ў марцы
На цвінтары
І на таргу

Пра беднага Лазара старцы
Цягнулі даўжэзна тугу,
Пра землі,
Якія за морам,
Пра мукі Хрыстовы,
Пра Рым.
«Калі не пракормім —
Заморым
Душу сваю смуткам старым»,—
Шаптала старцоўская сіла,
Нячыстай яна не была.
І лера наўсхліп галасіла,
Брыла
Ад сяла да сяла.

Язык дзервянеў у знямозе,
Нібы ў пастуха пугаўё,
Што бачылі вочы ў дарозе,
Гундосілі старцы сваё:

*— Хлеў згарэў, хлеў згарэў,*
*А шулы 'сталіся.*
*Матка плачаць,*
*Бацька плачаць,*
*А дзетачкі скачуць...*

Не дужы старцоўскі наедак,
Скупыя часцей працадні,
Сябе разжалобіўшы гэтак,
Як цягнецца, так і цягні!

*— Ой, не так жа мы селі,*
*Як летась сядзелі.*
*Ой, не так жа нам далі,*
*Як летась давалі...*

. . . . . . . . . . . .

Самота, самота, самота —
Куды ад назолы ўцячы?
Сама ты прыходзіш,
Ахвота,
Пакінуць сумоты балота,
Вільготныя пыцкі, лычы,
І пеша,
Як тыя драчы,
Ад золака
І да закота
У вырай падацца.

Лічы
Свае сцежкаводныя зоркі.
З табой лугавіны
І ўзгоркі
Падзеляць па-брацку харчы.

Дарога твая ўпалынее,
Запыліцца месячка плех.
У Домны а ці ў Паланеі
Цябе прычакае начлег.

У печы закладзена люшка.
Не з чаду
Цябе ўчадзіць,
Пачуеш праз сон,
Як пяюшка
Няшчадна
На вушка дудзіць:

*— Ой ты, мая Домна,*
*Прыйдзі ка мне цёмна,*
*Твая ступа, мой таўкач —*
*Будзем крупы абтаўкаць...*

Ніяк не ўцячы ад самоты,
Сваю абхітрыўшы тугу,
Самота
Нагурбіць сумёты —
І глухні,
Нібы ў берлагу.

. . . . . . . . . . . . .

Няхай твой не стоміцца посах,
Далей ад самоты вядзе,
Паломнік,
У хмарах,
На плёсах
Не знойдзеш спакою нідзе.

Палону пазнання
Палоннік
Сваёй спагадае бядзе.
Абраннік дарогі —
Паломнік
Сам-насам
З самотай ідзе.

. . . . . . . . . . . . .

І помніць радзіму бяздомнік,
І мову спагад і надзей,
Як вернік,
Самотны паломнік
У тлумным саборы людзей...

Ж

Пячэ народу кожнаму
Бог
Нябачны бохан
Лёснага хлеба,
Каб перад тым,
Як падацца на неба,
Хлебам прывеціў народ
Свой парог.

У кмене зорак
Хлеб падавы,
Пячэцца ён
На аеры веры,
Вякі перад ім
Расчыняюць дзверы,
І гэтым хлебам
Народ жывы.

Як нават рухне
Нябесны склеп,
У райскіх шатах
Ці ў апраметнай
Быць кожны мусіць
З душой адметнай,
Пакуль з ім
Духу надзённы хлеб.

У беларусаў,
У крывічоў
Хлеб духу
Зласаваны прыбышамі.
Мы ўжо сябе выракаемся самі,
Нібы рагацікі з-пад карчоў.

І нашыя вушы
Глушыць смяшок,
І нашыя душы
Праймае кпіна.
Ад бохана нам ацалела
Скарына,
Ад поўні вечнасці —
Веташок...

# Наша мова

Думку нашчыш золкімі ўспамінамі,
Сэрца песняй жніўнаю надзеіш,
У вякоў пад цёмнымі ялінамі
Белаю бярэзінкай ніцееш.

# Вяртанне «Пана Тадэвуша»

## I

Святло праз рэшата кратаў
У цэлю сеецца сеўма.
І на чарговым допыце
Паспалітае следства разгневаўшы,
Браніслаў Тарашкевіч —
Пасол вяльможнага сейму —
На халопскую мову перакладае
«Пана Тадэвуша».

Дагасаюць сухотна
Турэмнага вечара барвы,
І ўпарта брыклівы довад
Прыводзіцца адвакатамі,
Што вязень, хоць беларус,
Не зусім такі барбар,
Бо Адама Міцкевіча
Перакладае за кратамі.

## II

Верхнія нары.
З вылежаных цалёвак пасцель.
Што яшчэ трэба інтэлігенту?
«Пана Тадэвуша» Пятро Бітэль
Перакладае на пергаменце
Мяхоў з-пад цэменту.

Кавалак волава —
Цяжкое сціло.
Чарніла трывалае —
З турэмнай бальніцы зялёнка.
Не працісне праз краты
Аерыстае крыло
З Вішнева бяссонная слонка,

Не скіне ворагу ўлады
На шчасце пяро.
Для школьніка Лёніка
Роднага ў сібірскім прымусе
Перакладае Міцкевіча
Яшчэ малады Пятро
І для адабранай у яго
Беларусі.

# Час
# адчыняць шуфляды

Час адчыняць шуфляды,
І скрынкі, і прыскрынкі.
Што там у іх —
Парады,
Падгляды,
Звады, здрады
Ці светлыя іскрынкі?

Іскрынкі ўпартай веры,
Што ўсё змяняецца будзе
І праўда грукне ў дзверы,
Пакуль у лесе шэры
Воўк даканае ў хлудзе.

Шуфляды і прыскрынкі —
Ў іх не хаваюць на́жыць,
А з вольных крыл пярынкі
Ды чэрствыя скарынкі,
Што свірны пераважаць.

Пакарчавалі ляды,
А ўсё ў пашане луста.
Выходзіць страх з засады.
Час,
Адчыняй шуфляды,
Глянь:
Густа ў іх
Ці пуста?

# Былыя

## Аднаякія

Усе аднолькавыя,
Як робаты,
Паблiскваючы наваксаванымi ботамi,
Форму зручную для работы
Наменклатурныя шылi работнiкi.

Да габардзiну
Сталёвага колеру
Нi гразь,
Нi сорам не прыставалi.
Дзяўблi, як дзятлы,
Катэхiзiс настольны,
Па дыванах
Да трыбун праставалi.

Бары лыселi,
Сёлы радзелi.
Яны ж сядзелi
Князькамi ўдзельнымi.
За кiшэню нагрудную
Правай трымалiся.
У крэслах наседжаных
Смачна драмалася.

Шнур тэлефонны,
Як шнур бiкфордаў,—
Па iм кацiўся агонь загадаў.
Надзейна ён звязваў

Вёску з горадам,
Для мас
Быў павадом беззаганным.

І жнеш, і мелеш,
І не запынішся.
Стаіш,
Заклаўшы за кіцель палец,
Работнікі
Толькі ўлічыць забыліся,
Што з двух канцоў
Шнур бікфордаў
Падпальваюць...

## Пра бронзу

Хрысцілі продкаў у часы Ўладзімера,
Глынаў дубовых ідалаў Дняпро,
Ды ідалапаклонства ў нас не вымерла —
Уелася і ў цела
І ў рабро.

Шчырэлі пічыра
Ідалапаклоннікі,
Стараліся адзін перад адным,
Хвост ушчаміўшы,
Брудныя паклёпнікі
У неба курылі ахвярны дым.

Суладна вылі
Брахуны, падбрэхічы,
Круціліся,
Як тыя чарвякі,
Скалу для пастамента

Секлі крэкчучы,
Каб ідала паставіць
На вякі.

Век атамны
Рабіўся векам бронзавым,
Мы бронзаю замольвалі «грахі».
Услаўлены і вершамі, і прозаю,
Паказваў ідал бронзавы шляхі.

Дыхнула восень
Радасцю вясноваю,
Я чую —
Ў небе звоняць жаўрукі.
З усімі шчыра
За хрышчэнне новае
Я сёння галасую ў дзве рукі,

Я галасую
За хрышчэнне крытыкай,
Ім бласлаўлёная,
Рука жыцця
І бронзавага ідала ў адкрытую
Кідае проста ў рэчку забыцця.

А надалей
Быць з бронзай асцярожнымі —
Званоў са звонкай трэба нарабіць,
Каб над зямлёй
Гулі яны трывожныя,
Як новых ідалаў
Захочуць ліць!

1962

## Талавікі

Тылавікі, талавікі,
Што толам рыбіцу глушылі,
Пасля вайны ў франтавікі
Падацца дружна парашылі.

А кожны куксаю трасе,
Дасюль пра сталі град
Трылузіць.
Спіць, бы ў траншэі,
У  лясе,
Як конь, што ноч гуляў
Пры лузе.

У памяці з пустога дна,
Як змрок аглушанае рыбы,
З вайны ўсплывае
Пах віна
І крам павыбітыя шыбы.

Стаў чуб выхвалаў аблязаць,
Канец
Дармоваму кілішку.
І ў думках смачна аблізаць
З начальніцкаю юшкай лыжку.

Тулястыя талавікі
Гацяць паціху
Плётак гаці.
Як пыльныя палавікі,
Ляжаць яны
У чыстай хаце...

# Сальеры

У творцы свой Сальеры персанальны,
Па сумяшчальніцтву таварыш, брат.
Каб думкі творцы не пазасыналі,
Заплечны брат размове шчырай рад.

Былі свае Сальеры ў Куляшова,
У Быкава —
Хоць імі гаць гаці,
Кішма кішаць.
Не пыльна і грашова,
Яны пры споведзі і пры куцці.

І слухаюць, і нюхаюць,
Спагадай
Падзеляцца,
Як лустай ад душы.
На злыдняў генія
Глядзяць з пагардай,
Адданыя Сальеры-спарышы.

Стараюцца пацець халодным потам,
Сыцеючы на дармавым аўсе.
І службу дружбай называюць потым,
Зрабіўшы мемуарамі дасье.

# Груганы

На пенсіі, як на праталінцы
Пражорлівыя груганы,
Сыцеюць берыейцы, сталінцы —
Хлусні крывавыя паны.

Харчы
У груганоў законныя,
За чорны спіс паслуг яны.
Таксама, як харчы,
Казённыя
Ахвярагубцы-груганы.

Шануюць душамі глюгатымі
Святы для іх
Падвальны змрок,
Дзе шчыра працавалі катамі,
Давалі каінаў зарок.

Былі да кожнага прыстаўлены,
Хто не ў нагу падумаць мог
І ў сне не так сказаць пра Сталіна —
Тварца ўсіх нашых перамог.

А ворагаў глыбока ў корані
Прывыклі бачыць слугачы.
Хапала месца ў «чорным воране»
Усім
І ў чэраве начы.

На месца двухгалова-царскага
Арла
Паселі груганы,
Каб імем гневу пралетарскага
Заліць жудою шар зямны.

Аднагалова-аднадушныя
Адзін выконвалі загад,—
Каб душ як больш
У турмы душныя
Перасяліць
Пад засень крат.

І новы, наш,
Быў свет знявечаны
І руйнаваўся да асноў.
І прагла свежай чалавечыны
Глухое горла груганоў.

Цяпер яны цішэй за агнецаў —
Стараліся ў імя дабра.
Але рука дагэтуль цягнецца
Туды, дзе вісла кабура.

# Памяці ахвяр у Курапатах

Моцы больш не стае
У атлантаў пакут.
Судны дзень настае,
На зямлі —
Страшны суд.

Ад матык і ад віл,
Ад сталоў,
Ад станкоў
Пастаяльцы магіл
Лямант шлюць да вякоў.

З-пад пяці — і — шасці —
Конпых зорак,
Крыжоў
Страх,
Жывы ў забыцці,
Па забойцаў прыйшоў.

Страх не знік,
Не сканаў,
Ён вярнуўся назад
З ям,
Дзе ўнутраных спраў
Лютаваў Наркамат.

Страх хіба што на міг
Перапоўніць дупло,

Дзе ў забойцаў саміх
Сэрца
Чуцца магло.

Катам цесна ў катле —
Пекла
Любіць чыны.
Хай марудна ў смале
Закіпаюць яны!

* * *

Тройка, сямёрка, туз
Вусаты
Дасюль над лёсам
Вісяць,
І пракураны вус
Кіруе гарыйскім носам,
Што нюхае,
Дзе яшчэ
Не пахне смажаным мясам
Людскім,
А густа цячэ
Кроў,
Што спрачалася з часам,
Дзе
Тройка, сямёрка, туз
Вусаты
Ўзыходзяць крывава,
Дзе пухне папераў стус,
А ў кожнай —
Данос, расправа...

# Босы бог

Сын шаўца Джугашвілі,
Сын шаўца Ільхамі.

Адзін праз усё жыццё
Хацеў і стараўся,
Каб як болей людзей
Хадзіла ў апорках лагерных,
У халодных турэмных драўляніках.
Сам дратвы ў рукі не браў,
Велікадушна дазваляючы іншым
Гэтую неабходную, на яго думку, працу,
Нерукатворна зрабіўшы капыл
Адзін на ўсе ногі жывых і ненароджаных.
У царстве паднебным, вядома,
Не ведаў сын шаўца Джугашвілі
Прыказкі ўшацкай кплівай:
Усюды гож,
Як шавецкі нож,—
І боты шыць,
І бульбу крышыць.
Крышыў і крышыў усё і ўсіх,
Аж пакуль сам не скрышыўся.
Нездарма іншапрозвішча ўзяў
Са сталі, якая рэжа ядуча
І дужа доўга не тупіцца.
Сын шаўца Ільхамі Лахуці,
Што ў перакладзе азначае
Жыхар нябёс, пастаялец неба,

Нагамі босымі
Адчуў і цвердзь зямную,
І зыбучасць хвалі і лёсу,
І скамянелую сцюжу,
І спякотлівую гарачыню пустэльні,
Шукаў волі і шчасця
Для радзімы сваёй, для людзей
І трошачкі для сябе.
Абодва босыя пайшлі —
Кожны да бога свайго.

Адзін застаўся жыць
Жахам і лютасцю,
Другі дабрынёй і ўтрапёнасцю.

Пастаялец нябёс
Вярнуўся па месцы жыхарства.

А якую жылплошчу і дзе
Адвялі ўладару сталёвага прозвішча?

Сын шаўца Джугашвілі,
Сын шаўца Ільхамі,
Абодва босыя пайшлі —
Кожны да свайго бога.

# Тайга, 1937

Пераймание М. Някрасава

Харона адужылі
Сцюжа і стома,
Бо ў царстве Аіда
Ні планаў, ні зім.
— А людзі адкуль?
— Ды з тайгі ўсе, вядома,
Там *бацька* сячэ —
Я адвожу за ім...

# Як я быў агітатарам

## Навела

Нас, камсамольцаў, школьнікаў актыўных,
Ахвотна слалі ў масы, на сяло,
Хоць і мястэчка нашае было
Не горадам, не ў ліку перспектыўных.
Жылі і ў нас, і ў вёсках навакольных
Не так, бы ў творах тых
З праграмаў школьных.

І са сваёй маласвядомай мамай
Змагаўся я на камсамольскі лад,
А мамін прыбіральшчыцкі аклад
Бянтэжыўся перад магутнай крамай.
Кручкі, што трэба, здабывалі з базы,
На дно ныраючы, як вадалазы.

Начальнікаў кручкамі называлі,
Яны — ды іх — лавілі на кручок,
З авечкі ўлады воўны кузлачок
Не толькі каб на йсподкі настрыгалі.
Па-ўшацку йсподка — значыць рукавіца.
Рука загадаў холаду баіцца.

І мама, ранічкай прыйшоўшы з працы,
Сваю малую жыўнасць, хоць крычы,—
Усе дзюбы, ляпкі, пыцкі ды лычы —
Хоць чым насыціць мусіла старацца.
І, дзелячы пароўну ўсё, патрошку,
Свой рот ашуквала на лыжку, крошку.

А радыё звідна і дацямна
Адно трубіла, як гракі з праталін:
*С победой кончилась война.*
*Сталин! Сталин! Сталин!*
А потым літмантаж,
А словы ўсё адны,
Аж сцены адыходзілі ад плесні:
*Дзе прайшлі салдаты,*
*Сталіна сыны...*
*Мы роднаму Сталіну ў песні*
*Любоў і падзяку прынеслі...*

І мама зацiскала гэта горла,
Што не стамлялася крычаць за ўсіх,—
З разеткі вілку выдзірала ўміг
І доўга нешта выскрабала з цёрла.
Падумаўшы, вярталася таропка —
І працавала зноў радыёкропка.

Карміла і паіла, грэла Слова —
Адно на ўсіх у горадзе, ў сяле —
Яму гадзілі, як благой скуле,
Караць умела ўладна і сурова.
Сусед сказаў, што галава ў падсвінка,
Як у Яго,— і сустракай, Дудзінка!

Перш чым спатрэбіць там на што газету,
Глядзі, ці ёсць партрэт, каб раптам вус
Не адарваць, бо будзеш, як Ісус,
Цярпець за ўсе грахі старога свету.
Мы свой, мы новы свет будуем. Годзе!
Бог знік і з ім папоўскае адроддзе!

Я маме ў фарбах, светлых і суровых,
Тлумачыў будучыню — ў школе так
Вучылі нас. А на куце няўзнак

Іконка цьмела ў кветках папяровых.
Ніжэй наўзбоч — лікбез,
Будзільнік рупны,—
Вісеў і не драмаў ніколі рупар.

Зіма нам слала цёплыя кілімы,
Бо ў школу беглі хто ў нічым, хто ў чым,
Нас сустракаў пяшчотна не айчым,
А бацька.
«Ранне нашае радзімы»
Займалася на ўсю сцяну шырока
І нашы душы пашчыла штоўрока.

Ад элементаў шкодніцкіх, вядома,
Пачутая і не самім, не дома
Варожая, падступна, нечакана
На вусны памыкалася загана:

*Ленін у туфельках*
*Хадзіў,*
*Людзей па сухенькім*
*Вадзіў.*
*А Сталін як абуў боты,*
*Дык павёў людзей у балоты...*

Я рыфмаваў дакладна: тата —хата,
А «ў туфельках — па сухенькім»
Тады
За рыфму не лічыў.
Такой бяды —
Балот у нас не гэтак каб багата.
Дый хутка ўсю прыроду ператворым.
І трэба бой даваць настроям хворым!

Хоць наш раён
Слыў партызанскай зонай,
Ды ўсё ж пад акупацыяй былі,

І гэта зазначалася, калі
Анкета ставіла графой законнай
Падказанае пільнасцю пытанне.
Былі б адказы, a пытанняў стане!

«З рабочых» — сацпаходжанне старанна
Выводзіў, хоць не дужа разумеў.
За школу не плаціць палёгку меў
Як сын загінуўшага партызана.
Сказалі: вырас з пенсіі за тату,
І мы жылі на маміну зарплату.

І зноў — вяртаючыся да пытання
Пра акупацыю. Сусед Пятрок,
Каб не прывеціць Котлас, даў зарок
Начальства далучыць да палявання.
Сырцу ставала, як вады ў азёрах,
Бяссонне нерваў супакойваў порах.

Дырэктар банка і абавязкова
Раёна таямнічы гаспадар
Лясоў і рэчак бралі шчодры дар.
І ўсім і ўсімі кіравала Слова.
Шкада Баяна, бо ў сабачым лёсе —
І качак браць, і шрот насіць у носе.

І раптам — долу рухнулі нябёсы,
Усю зямлю працяў суцэльны плач.
Атосы лопнулі — лятуць наўскач
З абрыву
Лёсу светлага калёсы.
Няма. Не стала.
Што ж з Сусветам стане?!
Сам бог, каб быў ён,
Адказаць не ў стане.

У марцы зябка грукнулі каляды.
У дубе засвяцілася дупло.
У самых злыдняў мову адняло,
Бо, як ні шчыра карчавалі ляды,
Варожая, як пустазелле, сіла.
Язык змяіны кпіна прыкусіла.

*Дзякуй мудраму грузіну,*
*Што абуў нас у рызіну.*
*Будзем Амерыку прасіць,*
*Каб рызіну не насіць...*

Цяпер у жменю соль ды торбы лапце,
Рызінай буркі падшываць лацвей.
Глядзі, каб не вяртацца да лапцей,
А ўсе забыліся, як плесці лапці.
Жалоба ў цэлым свеце, ў наваколлі.
Ну і, вядома, груз адчаю ў школе.

І прэса ўся ўчарнелася ад жалю,
І радыё перацінала дых.
Яшчэ я не хадзіў ні ў маладых,
Ні ў тых, каго з нагоды друкавалі.
З насценгазеты заявіў рашуча:
Бо Сталін — жыццё, а жыццё — неўміруча!

Матэматычка, маці нашай Бэлы
(У Бэлы наша ўсё — герой і час),
Апавясціла афіцыйна клас,
І ўсім ураз заныла, забалела.
Ды класная ў агульным хоры плачу
Ўзвілася голасам на ўсю Ушачу.

І гэта ўжо нагадвала віечанне
На ўбоінах — і ў парту галавой
Убіўся я, каб нават голас свой

Не чуць: а што як здуру смешна стане?
Я ўжо звыкаў баяцца ўласных думак.
Бо горбіўся заплеччу страху клумак.

Крутнуў лакцём —
І ўвесь густыш і жыжу
З бутэлечкі-чарніліцы да дна
На шапку выліў — сіняя яна!
І зарыдаў наўзрыд,
Па-ўшацку — ўзрыжжу.
Было мне гора ўсёй планеты мала —
Вушанкі цэлай, новай шкода стала.

Заплаканы прыйшоў маўкліва ў хату
І гора, і разгубленасць прынёс,
Ды маміных не ўбачыў горкіх слёз
І ўсепланетную тлумачыў страту.
Цяпер [illegible] разумею, болей маме
Бядзіла, як стачыць канцы [illegible] канцамі.

Ды сонейка ўзыходзіла. Тым часам
На лета бралася. Ішло цяпло
Адразу і ў райцэнтр, і на сяло.
Наш клас спаборнічаў
З суседнім класам.
Гусцела ярына. Пладзіўся статак.
За яблыні адменьваўся падатак...

І браўся курс,
Каб лёгкай прамысловасць
Зрабіць. І чулася з усіх бакоў
Прыслоўе: «Малянкоў напёк блінкоў».
Смялець адважвалася прамасловасць.
(Яшчэ і пры Хрушчове ўсе гулянкі
Пілі з рубчастай «малянкоўскай шклянкі».)

Малыя дзеткі і малыя бедкі —
У мамы лозунг быў і курс адзін.
Пятнаццаць сотак — тут і магазін,
І рынак — удавіныя палеткі.
Наёмнай конская бывала сіла,
Як узараць гарод за літр прасіла.

Я школьную рэдагаваў «Калючку»
І ў гневе крытыкі кіпеў, як Аш
Два О, кляйміў, што рух трымала наш,
На помач клікаў дзедку, бабку, Жучку.
Ад правільнасці галава шумела.
А дысцыпліну ўсе зрывалі смела.

І нас, актыўных, мабілізавалі
Ісці ў сяло, да мас чытаць Даклад,
Дзе ўсё тлумачылася акурат,
Але мяне праблемы хвалявалі
Літаратуры,— і невыпадкова,—
Што нетыпова ў нас і што тыпова?

Я ў Строкты агітатарам падаўся,
У вёску нетыповую зусім,
«Кубанскіх казакоў» вясёлы ўздым
І прывідам тут нават не туляўся.
Ступаў па лужынах бадзёрым крокам.
Кулацкая частушка злосным вокам
Міргала мне, нахаба:

*Устань, Ленін, падзівіся,*
*Як калгасы разжыліся:*
*Пуня ракам, хата бокам*
*І кабыла з адным вокам...*

Міргай сабе, кулацкая нагога,
Успомні словы іншыя такі:

*Соловки, вы, Соловки,*
*Дальняя дорога,*
*Сердце ноет от тоски,*
*На сердце тревога...*

А ў рыфму самі просяцца радкі:
Каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі...

Усё, дзе непаладкі,— нетыпова.
Ёсць лінія, і яе вяду.
Падымем — на вяроўках — гавяду,
І мне, як і Ясеніну, карова
Аддасць за вершы плату сырадоем
(З бярозкай томік прачытаў запоем).

Сарочы строкат — Строкты.
Зябка ў хату
Заходжу. Хліпае газнічка ледзь.
Я мушу прачытаць Даклад паспець,
Ідэйную адбыць як трэба рату.
А голас там, за комінам, старэчы:
«На печы добрыя рэчы»...

І я чытаў, перакладаў адразу
Па-беларуску. Важкі быў Даклад.
Для зразумеласці на ўшацкі лад
Прасціў занавукоўленую фразу.
Я верыў шчыра, а не па загаду
У гістарычнасць кожнага Даклада.

Чытаў гучней, каб не здалося глуха.
І недзе ўжо на трэцяй паласе
Заснула, як капуста на лясе,
Мая слухачка, вечная капуха.
Галасавых не шкадаваў я звязак,
Ды недавыканаў свой абавязак.

Я ў ноч ступіў.
Бліпчэлі каляіны.
Скалелы і ў гразі дамоў прыйшоў,
Дабіўшы чаравікі да цвікоў
Адзіныя.
Абцопкаў калашыны.
Я сніў трывожна полюс і экватар,
Як скампраметаваны агітатар...

# Ці варта

Гэткі ўзяў Вавілон
Разгон,
Даў размах усялюдны, ўсіхні,
Што да сённяшніх дзён
Той звон
Рупатлівых кельмаў не ціхне.

Крута быў замяшаны расчын
І са знакам якасці цэгла,
Першы ў свеце браўся пачын,
Ні душы з будаўніцтва не збегла.

Можа, мовы сталі віной,
Што з адзінага збілі тропу,
Можа, быў вінаваты Ной,
Што не тых ратаваў ад патопу?

Колькі будзем яшчэ бедаваць,
Наракаць на адзежу, ежу?
А ці варта было будаваць
Да нябёс
Вавілонскую вежу?

# За калядны стол

А я збяру гады старыя,
Што ад мяне ўцякалі ўпотай,
З дзядамі разам
На куццю.
На кут няхай садзяцца тыя,
Што мама няньчыла з пяшчотай,
Гады, прыемныя жыццю.
Ад маладых гадоў дзяды
Хай адвядуць сляды бяды.

Няхай, што не любіў калісьці,
Гады, бо валакліся сонна,
Далей садзяцца ад кута.
Яны мяне даўно зракліся,
А мне іх не хапае сёння,
А я ж без іх —
Што сірата.
Няхай траецкія дзяды
Паклічуць зброднія гады.

Хай ля мяне пасядуць поплеч
Гады, што не ўцяклі далёка,
Яшчэ я помню іхні крок,
Я помню іхні плач і поплач,
Мне левае дагэтуль вока
Свярбіць, нібыта назнарок.
Няхай калядныя дзяды
Уснежаць сцежку на клады.

А тыя, што пакуль мае ўсе,
Каб ліха іх не падлічыла,
Баюся пасадзіць за стол.
Хачу, каб гром куцці наеўся,
Каб добра ўгрэўся маразіла
І не ўкаваў глыбока дол.
Маўчаць гады,
Маўчаць дзяды.
Хоць ценем буду я сюды.

# Успомненае цяпло

З самім сабой,
З агнём у печы
Пад вечар
Ціха пасядзець.
Даверыўшы спакою плечы,
Цікаўна печы ў рот глядзець.

Глядзець,
Як полымя глыдае
Сукі,
Паленне,
Кругляκі,
Чуць,
Як за шыбай халадае,
Як б'юцца ў дзверы скразнякі.

Дрыжыць за сценкай
Куст рагаты.
Вярнуўшыся з далёкіх год,
Смяецца печ —
Апора хаты —
На ўвесь залатазубы рот.

І наплывае,
Наплывае
Забыты сон
Забытых дзён,
Вяртае

Памяць ветравая
Цябе да чэрствых баразён.

Крадзецца цішыня начная.
Апошні вугалёк датух.
Душу ласкава ахінае
Дух печы,
Продкаў вечны дух...

# У адкрытым космасе

Мама,
Колькі жыла,
Выходзіла ў космас
Цемры, святла,
У космас адкрыты,
Дзе чакалі
Даёнкі, матыкі, карыты,
У космас
Лесу, гарода, саду,
У космас клопату
Пра пагоду, пра ўроду, расаду.
І сам-насам з Сусветам,
Як з тым суседам,
Гутарыла і зябла,
Калі штоначы,
Часам плачучы,
Часам стогнучы,
Не чуючы ні рук, ні спіны,
Вартавала дбала
Карміцельку-яблыньку,
Якая ўцалела з вайны.
Абкладзеная падаткамі,
Нібыта ападкамі,
І яшчэ гусцей,
Яблынька
Яблыкаў чакала восенню
З бояззю,
Як мама гасцей:

Ці ўсім стане
Пачаставацца?
Трывога чакання —
Таксама праца.
Мама, бывала,
Палахліва драмала
На голай зямлі.
І калі
Яблыньку нехта кранаў,
Яблыкі сыпаліся —
І маму будзілі.
А незабудкі,
Санлівыя непрабудкі,
Глядзелі ўранні з канаў
У наіўным здзіве,
Як пыхлівая, забыўлівая радня.
А маму да пэўнага дня
Бяссонным вартаўніком
Назіркам,
З вока на вока,
Крадком
Пільнаваў лёс,
З усмешкай гледзячы
На гладышы, на ручасцікі, на гарнушкі,
На цёрлы, цабэркі, кадкі,
У якіх і днявалі, і начавалі
Зоркі,
Што намерзліся ў небе да слёз.
І моцна,
Відаць па ўсім,
Бог спаў у садзе сваім,
Бо там нехта яблыні трос,
І густа сыпаліся
Знічкі-падкі.
Ні разу маму не папрасіў
Стары

Прыглядзець і за ягоным садам.
Няйнакш там яблыні
Раслі галінамі дагары,
Таму на зямлю прасіліся
Зарападам...
Не ведае, як для самога
Бога,
А для мамы
У космасе адкрытым
Бязважкага не было нічога.
Усё здабывалася
Потам, бяссоннем, спрытам,
Усё запрашалася
Ласкаю, ўгаворам, дакорам
У хлеў, у варыўню, ў кубло
З ляхі, з-пад страхі, з поля.
Усё цяжкое, важкое было,
Як доля...

# Парашутны шоўк

Я ў прадаўшчыцы папрашу таго,
Які шуміць мне ўсё ўвушшу,
Адмераць шоўку парашутнага,
Адмераць шуму папрашу.

Тупых нажніц застыгнуць сківіцы,
Ім звычна кроіць цішыню,
І прадаўшчыца яўна скрывіцца,
Пачуўшы просьбу ўпершыню.

Прамень аб шыбіну задзынкае.
А мне шуміць,
А мне не змоўк
Касінкай хітраю,
Касынкаю
Смяецца парашутны шоўк.

А мне ён муркае, як котачка,
Скрыпіць, як ранішні шарон.
На маме аблачынка-кофтачка
Бялей за белы пыл з жарон.

І гузікі,
Нібы сунічыны,
Што я ў гарнушак назбіраў.
Вайна далёка.
Вораг знішчаны.
Абнова маме паднараў.

Сабе самой такой багатаю
Здаецца мама.
Не пажоўк
Адмераны ўдаве спагадаю
Дагэтуль
Парашутны шоўк.

Ласкава памяць папрашу таго,
Што мне шуміць яшчэ ўвушшу,
Адмерадь шоўку парашутнага,
Адмерадь шуму папрашу.

# Чаму?

Колькі год, як аглухла вайна.
Цішыню не суроч. Памаўчы.
У карабля забыцця
Перапоўніўся жахамі трум.
Дык чаго ж у лясах беларускіх
Пасівелыя крумкачы
Аж дасюль па-нямецку
Пытаюць пра нешта:
— Warum?

# Кола

І жывяць звяры звяроў,
Кузуркі — птушак.
Здаўна
П'е чалавечую кроў,
Харчуецца людствам вайна.

І круціцца кола вякоў
З цямна да цямна,
З відна да відна...

# Надпіс на месцы вёскі Літавец, што на Дзяржыншчыне

Ні жудасць не астудзіць, ні мароз
Зямлю, дзе крык жывы травой прарос.
Агонь у напаміне, ва ўспаміне.
Прыйдзі адчуць,
Што прысак тут не стыне.

* * *

— Рыгор, цягні багор,
Бо тачыла плывець! —
Мама, бывала, мяне будзіла.
І я прывыкаў да штодзённага дзіва,
Заспаныя вочы прадраўшы ледзь.
Да сэнсу прадрацца
Цікаўнасць тачыла:
Як гэта можа плысці тачыла,
Дзе плавае чорны дубец-вугор,
А што, калі не паспее багор?
Міналі гады,
І жыццёвы бугор
Рос, быццам горб,
У дарог за плячыма.
І мне прыдаўся далёкі багор,
Ім, сцяжалелым, цяпер магчыма
Уратаваць тачыла гадоў,
Хай ненадоўга,
Пакуль не затоне,
І з нераскінутых невадоў
Выбраць нявыспанае сутонне.
Я адпіхнуцца гэтым багром
Ад берага старасці
Намагаюся.
Пакуль ад сну не прахопіцца гром,
Намахаюся.
А бераг —
Ён валачэ да сябе —

Бераг старасці,
Бераг сталасці.
Плынь
Упартага плытніка з ног саб'е,
Каб змора хваляю распласталася,
За плынню ранішняй цяжка ўгнацца.
Праспаў паромшчык.
Адплыў паром.
А хочацца зачапіцца багром
За бераг юнацтва.
Час адстае.
Багра не стае.

## Па схіле алфавіта

**Адчай,**
**аратай, аброк, асянчына, ахвяра,**
**апрамецце, аблітня, аблігацыя,**
**аблога, ажамеры, аберуч, асвер,**
**аброць, аплітанік, аполак,**
**асецішча, аер, абцугі, Адворня,**
**адрына, асіта, аскома;**
**Боскасць,**
**бохан, багаславенне, бальзамінка,**
**бязь, бягельда, багун, буцян,**
**боль, блёкат, бель, Быкаў,**
**Баркоўшчына, баракамера, бруёк,**
**бёрды, бязмен, бёрны, беркавец,**
**бома;**
**Вырай,**
**вір, вуж, вугары́на,варыўня,**
**Вечалле, вярыгі, Вялікдзень,**
**валачобнікі, Верасовачка, Велес,**
**вурзгалка, вогнік, верацяно,**
**волаць, вішшо, вотрыны, век,**
**Вяркуды, вех, вера, вусціш,**
**вар;**
**Гаркота,**
**гора, гара, гарлач, Грамніцы,**
**Гілёня, гаспода, гадзіна, га́дзіна,**
**гонт, гузік, газоўка, гарохавіны,**
**Грабакладзіна, гуз, галавешка, гай,**
**грай, гарбар, грабар;**

Дарога,
далечыня, доўг, далаНя, Дземенец,
друкі, друз, дзядоўнік, Дзяды,
дынаміт, далакоп, донар, даважак,
дармаўшчына, дарэмшчына, дамавік,
дамавіна, дым, даёнка, даніна;
Енкат,
еменка, епдза, ерапеніцца, Ева,
ельнік, Еўразія, еданіна,
езданіна;
Ёкат,
ёлкасць, ёд, ёўня;
Жалоба,
жэрабя, жорны, жуда, жолаб, жур,
журавель, жарабя, жароўня, Жыжаль,
Жыцень, жарства, жмыха, журавіны,
жаўна, жоўць, журлівасць, жомчуг,
жаданне, Жывалака, жанчына;
Змярканне,
зеўрыцца, золь, завіруха, затула,
здор, Задаброцце, зык, зыгарадзь,
зрэб'е, згрэб'е, забыццё, загон,
загана, затока, Загавіны, залобак,
заручыны, зданькі, забарона;
Іржа,
імжа, імша, іржышча, істопка, Ілля,
Ізбор, іншаверца, ірацыянальна,
Ідута, іклы, Ілона, імшарына,
ілоўка, іголка, ільмак, ікона;
Кірмаш,
крумкач, кут, крывічы, куцця, Кеты,
крэў, Каляды, Куліна, кара, кàра,
камель, крыж, касавільна, курмель,
кужаль, куніца, крушня, Кавалеўшчына,
капа, кàпа, капішча, кроклы,
катоўня;

Ланцуг,
лёх, луг, лой, лом, ластаўка,
ласка, лёска, ляскат, лягскотка,
латок, латока, лесавік, лейцы,
лайно, лён, лотаць, лямантаваць,
лашчына, ляшчына, лавіна, лядаік,
лядоўня;
Мара,
мана, Менск, Маскалёўшчына,
мярэжы, мялінне, мох, мярлог,
мурог, меліва, мліва, малодзіва,
мех, мядзяк, міжыпарніца, малацьба,
Міклашэўская, маладзік, Мілавіца,
мураванка, мама, маркота;
Нашча,
нагбом, навошта, навобмацак,
набільніцы, нядзеля, нэндза, насоў,
ніты, нараспеў, начлег, нерат,
наравісты, нараканне, нераст, навала
нявывылака, неператіўкі,
няснота;
Ойча,
одум, овен, охра, Орша, ордэн, ода;
Прашчур,
праснак, падсмецецне, паланачкі,
пільсць, поўсць, пакулле, пікар,
павець, Пакроў, палюк, праварына,
прадзіва, пястачка, Піліпаўка, Полацак,
пакута, пазыка, пекла,
пост, пулята;
Ракіта,
рыдма, радаўніца, радоўка, Роўба,
радца, раніца, рэзгіны, рунь, рой,
роў, рай, рана, радовішча, радабоць,
ростанькі, радыяцыя, развітанне,
рашпіль, росы, расплата;

Споведзь,
свет, сейбіт, смага, сведка, Спас,
Саракі, Сарочына, сірата, сорам,
сырапеня, скарга, скарбонка,
стрыгнатка, студня, сухмень, саха,
сарачыны, сачэнь, скароміна,
сігалетка, Селівей, свята;
Талака,
таропкасць, таемнасць, трыпутнік,
трэтар, таварыскасць, трывучасць,
Тураўля, туман, Тумаш, Тарэнта,
танок, тубылец, тапелец, тлушч,
тлук, тлум, ток, такавішча, тата;
Ушача,
ужо, улукаткі, уваскрошанне,
узроўе, уток, удосталь, ужор,
Улляна, увішна, урачыста, уборы,
уроцы, Увалокі, уяўна;
Фэст,
фарба, фара, фальга, фасоля,
фуганак, Фарынава, фурманка,
фіранка, флора, флянец, фаўна;
Холад,
хвароба, хаўтуры, хутар, хорт,
халераваць, хеўра, хада, хаўрус,
харахорыцца, хмурына, Харон,
хвартух, хусціна;
Цемра,
цяжар, цапавільна, Цярэжка,
цэбар, цьмян, цецярук, Царкавішча,
церассядзёлак, цуг, цяць, цвяліць,
цвет, цвіль, цвік, цвінтар, цэўка,
цаўё, Ціханяты, цяробкі, цясніна;
Чарга,
чалеснік, чарэнь, чарнобыль,
чарот, чарада, чэмер, чэрава,

Чаравэчча, чалавеча, чарэп'е, Чарнаручча,
чоўен, чомбар, чорны,
чапяла, Чарапоўшчына, чарапіца,
чарвяк;
Шалі,
шаргунок, шуметнік, шэрас,
шаленец, шкода, шкада, шуфель,
шархебель, шурпаты, шчавульнік, шулы,
шыла, шарон, шана, шаша,
шарэнніка, шчыра, шчодра,
шаршатка, шчоглы, шчэць, шпак;
Ы-ы-ы! —
Экзамен,
электроніка, электрапіла,
электракрэсла, эрозія, эротыка,
эпітэт, элегія;
Ютрань,
юнацкасць, Юр'я, Юркоўшчына, юр,
юхта, юха, Юпітэр, юлёва;
Яшчэ,
яма, яр, ярына, Ярыла, Якута,
ячнішча, ява, Ясь, язь, язьмін,
ясік, ялавічына, ятроўка, яблык,
ядваб, явар, яджгур, яслі, ягня;
І кожнае слова
Твой век пялегвае,
Пакуль у слоў цябе
Не выйграе пры дзяльбе
Ці-
шы-
ня...

## Без вас

Мае стрыгнаткі, кнігаўкі, буслы,
Трыпутнікі, міжыпарніцы, цьмяны,
Алешыны, бярэзіны, ляшчыны,
Вугры, чырванапёркі, курмялі,
Мае сабакі, качары, валы,
Балацявіны, нерушы, паляны,—
Няма вас,
Адплылі, як аблачыны.
Дазвольце затрымацца на зямлі
Мне...

# Вялічка

**Бор — зялёная галава —**
**Перакуліўся ў возеры...**

* * *

З крыніцы піць і не напіцца,
Глядзець у дно — не ўбачыць дна.
Незамутнёная яна,
Бруіцца чыстая, бруіца.
Са сном адыдзе і прысніцца
Неадаснёная адна.

Каб асвяціць душу,
Здаўна
Ідзе здалёку навальніца...

* * *

Матчына хата ў змроку дрымотным.
Вокны распятыя.
Голыя сцены.
І правадоў учарнелыя вены
Поўняцца цішай, як токам грымотным.

Зеўраюць,
Быццам азонныя тыя,
Дзіркі,
Прагрызеныя пацукамі.
Шэжыцца памяць калюча цвікамі.
Сохнуць чмялі, як зярняты пустыя.

Як перад новым сусветным патопам —
Боскага гневу апошняя дзея,—
Горбіцца скруха.
Душа халадзее.
Пахне [redacted] гароду дзядоўнікам,
Кропам.

* * *

Ну вось і падыходзіць ён,
Дзень,
Дзе канчаецца дарога,
Якой жыццё прайшло як сон.
І анікога дарагога
Няма ў цябе,
Няма яе,
Што на зямлі была матуляй.
Гады ў пазыку не дае
Надзея баравой зязюляй.
Твой бор сухі,
Твой двор глухі,
Твая аблога не ўзарана,
Ды прымярацца да ляхі,
Адкуль ты ўжо не ўзыдзеш,
Рана,
Прынамсі, на сваю імшу
Ісці не варта крокам рупным.
Свой дзень апошні папрашу
Хоць памяняцца
З днём наступным...

* * *

Паабымшэў валун,
Абыржавеў калун.
На печы кот-вуркун,
За печкаю — цвыркун.
Для ўсіх вякоў адны —
Няхітрыя даніны.
Нам дадзены яны
Маркоціць успаміны...

# Ушацкі абразок

Мячэўнік моўчкі
Вострыць лёзы,
Стае зялёнага святла.
Двухпавярховыя стракозы
Напомнілі:
Вясна прыйшла!

* * *

Гулкая вулка роднай Ушачы
Слухае сцішана на схіле дня
Просьбы ласкавай голас дзіцячы:
«Татка,
Пасадзі мяне на каня!»

Гэта амаль забытае
«Татка» —
Слова вяртае здалёку мяне.
Даўняя згадка,
Быццам загадка,
Здагадалася, што тугу ўзварухне.

Зноўку прашу, як калісьці прасіў я,
З ціхай назойлівасцю авадня,
Хоць сам зрабіўся, што конь той, сівы:
«Татка,
Пасадзі мяне на каня!»

Разгаманіліся напаміны
Голасна, як на памінках радня.
Хочацца верыць —
Бацька павінны
З нашы гадоў
Мне прывесці каня...

# Голас

А голас такі пакявы,
У спадчыну ён
Ад бабулі,
Ад ціха палеглай травы,
Ад золку,
Дзе гулка зязюлі.

Малая свой голас вядзе
У вір галасоў
На праспекце
На ціхім такім пявадзе,
Пачуць гэты голас
Паспейце!

Аглухлыя вушы мае,
Што звыклі
Да гулу,
Да крыку,
Штодня вам яго не стае,
Бясплатны яшчэ
Ён на рынку.

Малая свой голас вядзе,
А ён прысмірэлы,
Як тое
Цялятка ў чужой чарадзе
Дурное,
На рожкі крутое.

А голас такі лугавы,
У спадчыну ён
Ад спрадвечча.
Я галасам гэтым
Жывы.
Малюся:
Мацуйся,
Малеча!

## Еўдакія Лось

Еўдакія — ўшацкая мадонна,
Ты Пегаса брала пад аброць,
Ты была гатовая штодзённа
Жаць, касіць,
Баранаваць, палоць.

А шырока
Займішча займала,
Па-мужчынску цвелячы плячо.
Клопату было табе замала —
Вырасла блакаднае дзяўчо!

Слоў калоссе
Зажынала дбала
І як след закручвала вязьмо,
Першаўкос аншчадліва зграбала,
Нібы ўсё рабілася само.

Слова сакавітае любіла —
Нарадзілася ў сакавіку,
Па-сялянску —
Каб трывала сіла —
Кланялася
Кожнаму радку.

І твае святыя Аўдаксі
З аратайнага календара,
Як і партызанкі, аўдавелі,

Рукі ў іх,
Нібы ў ялін кара.

Сумна акультуранаму полю.
Жнеі навярэдзілі крыжы.
Суджана твайму святому болю
Дацвітаць валошкай на мяжы...

* * *

У сны вяртаецца радня,
У сны вяртаюцца суседзі,
Якія ўжо далёка недзе,
Якіх ужо да тога дня
Не ўбачыш,
Што завецца Судным,
Ні авіякрылом,
Ні суднам
Ні вышыня,
Ні глыбіня
Не верне іх,
Радню маю,
Якую меў за ўсе стагоддзі.
Не дужа цешуся нагодзе
Хутчэй сустрэцца,
Не таю.
На свеце, стратамі багатым,
Быць сватам,
Ворагам
Ці братам
Няблага.
І на тым стаю,
Што ўсіх сваіх спаткаю потым,
А покуль паліваю потам
Парослую аўсом, асотам
Зямлю,
Дзе клопатна раю́.

* * *

А той хлапчук са мной
То блізка, то далёка,
Наіўнасцю лясной
Напоўненае вока

Глядзіць цікаўна ўслед,
У свет іду куды я,
А яблыневы цвет
На плечукі худыя

Апаў,
Яшчэ не лёг
На стог чупрыны снегам.
І радасць, і спалох
Бягуць няспешным бегам.

Дасюль на хлапчуку
Кашуля не зліняла,
Што маці на цямку
Качалкаю качала.

Выходзілі вясной,
Дайшлі да жаўталісця.
Хоць хлапчуку са мной
Ступаць няма карысці.

Але цераз гады
То ўперадзе, то поплеч,

Не цішачы хады,
Ідзе мой смех,
Мой покліч.

Дык гэта ж я і ёсць —
Малы хлапчук той самы,
У свеце толькі госць
І вечны сын у мамы.

Як даўні доўг, расце
Мой прыхаваны сорам.
На прыцемнай вярсце
Прысядзем, пагаворым...

* * *

Ступае грузна мажная кабета,
А мне ўсё здаецца,
Што мама гэта
З далёкае стараны
Ідзе апярэдзіць сны.

Смяецца ранішнім громам лета,
А мне ўсё чуецца,
Мама гэта
За ўсё жыццё ўпершыню
Не хоча чуць цішыню.

Начны небасхіл падпаліла камета,
А мне ўсё мроіцца,
Мама гэта —
Ёй цемру ў хаце свянціць
Дасюль лучынай карціць.

Пакуль жыву я,
Жыве таксама
На гэтым свеце
Са мною мама.
Памру — зраблюся
Туманам сінім,
А застануся
Маміным сынам.

* * *

Гаспадарыць дзяцел на магільніку,
Правярае кожную сасну,
Ці на дошку пойдзе,
Што ў прымыльніку,
Ці на габляваную труну?
Дзяцел,
Адпачні крыху ад шчырасці —
Над магілай
Маміна сасна.
Дай залётнаму спакою вырасці,
Аўдавее без яго вясна.
Гаспадар няспешна на магільніку,
Соснаў шмат
У старане лясной,
Аднаго прашу я ў вока пільнага —
Пачакай яшчэ
З маёй сасной!

* * *

Для радасці мала прычыны,
Аж горбяцца вербы ніцыя.
Хаўтуры і сарачыны —
Сумная рэпетыцыя.

Для радасці многа прычыны,
Аж рэха далёка завойкала.
Ад руні — зялёнай аўчыны
Светла навокала.

* * *

Усё жыццё жывеш расстаннем
З матуляй,
З дружбаком астатнім
І з той вадой,
Што пад вярбой.
Сам ашуканы,
Іншым хлусіш,
І верыш зноў,
І ўрэшце мусіш
Развітвацца з самім сабой.

* * *

Я на гэты свет прыйшоў па вопыт,
Запытацца і пачуць адказ,
Ён навошта,
Паўсядзённы клопат,
Вечны тупат ног і крылаў лопат,
Што з нябёс вяртае долу нас.

Зразумеў я:
Вопыт — гэта стома,
Што завецца чуласцю душы,
Стома —
Над ракой імгнення строма,
Стому,
Што ў табе жыве, як дома,
Нельга заглушыць,
Як ні глушы.

Захавай на шчасце стому гэту,
Размяняўшы рэшту год на дні.
Радуйся ў жыцці святлу і свету,
Верачы ў паганскую прыкмету:
Дабрыня шукае глыбіні.

І пакуль з табою вопыт будзе,
Старасць ціха адплыве ў чаўне,
Адгукнецца жаль у перапудзе,
Зробяцца вярбовай клеткай грудзі,
У якой душа спяваць пачне.

* * *

З гадамі зжываюся з аксіёмаю,
Што адыходзяць сябры і знаёмыя
У незваротнае падарожжа.
Ды ўсё ж
Дагэтуль
Пакуль што верыцца,
Што лепшы сябра
Аднекуль вернецца.
А раптам?
А можа?
А можа?

* * *

А можа, гэта не я зусім,
А нехта іншы жыве на свеце,
За мною сочачы і за ўсім,
Усё трымаючы на прыкмеце,

Каб перадаць мне
Пасля, пасля
Усё святое,
Усё благое,
Пакуль на грудзі мае зямля,
Як ноч, не ляжа
Глухой вагою.

За гэтым іншым і я сачу,
І да сябе яго прымяраю,
І дратву выхітрана сучу,
Нябёсы з хмарамі прыміраю.

Мяне нібы не бяруць гады,
А нехта іншы хутчэй старэе.
А шыбы смутнасці са слюды,
Світаннем вымытыя ў надзеі.

Шкадую іншага як свайго,
Свой век стары
З-за гары пільнуюю,
Не заўважаючы сам таго,
Гляджу праз шыбіну слюдзяную...

# Шукаю шчырую душу

Шукаю шчырую душу,
Што адгукнецца мне ўзаемна,
Тугу нашу, сабе хлушу,
Хоць адчуваю, што дарэмна

Дагнаць хачу я цень чужы.
Марную дзён сваіх астатак.
Да недасяжнае мяжы
Падаўся спадзяванняў статак

Тых, што адбіліся,—
Адно
Мне гнаць да статку засталося.
Было даўно,
Сплыло яно,
Жаданне ўпартае.
Мой лёсе!

Мудруеш ты, хітруеш ты,
А я душу шукаю тую,
Што, прытуліўшы ад слаты,
Неспадзяванасцю ўратуе.

Свой пашыраючы загон,
Маўчыць нябыт,
Яго Вялікасць.
На ўскоце, на закоце дзён
Душа душу прывыкла клікаць.

* * *

Гук, украдзены ў маўчання
адчаем нематы,
зрабіўся голасам,
музыкай, зыкам,
выгукам радасці,
водгаласам роспачы.
Як непрыкаяны,
пакутуе гук у свеце,
бо пакрыўджанае маўчанне
не жадае яго забіраць назад —
хай лямантуе,
хай расчульваецца —
сам жа спяшаўся
з нямоцця вырвацца.
Я разумею гук, бо сам,
як і кожны з нас,
я — гук таксама,
украдзены нецярпеннем
у знямелае вечнасці.

* * *

У цяперашнім
меней і меней мяне,
у мінулым —
болей і болей,
у будучым часе
я ўжо неўзабаве
буду.
Жыву ў трохкутніку,
дзе кожны кут
няўтульны
і чужаваты.

# Лёс

Лёс прынёс мяне на базар
І, як пеўня,
Трымае пад пахай.
Хоча збыць свой тавар
Гандляр,
Просіць:
— Ты языком не лахай,
Каб не спудзіліся купцы.
Толькі ўбыткі адны з табою.
Не прадам цябе —
І капцы,
У капцы зарасцеш травою.

— Лёсе мой,
Пацярпі, прашу:
Не збаўляй цану,
Патаргуйся.
Не мяне,
Дык маю душу,
Можа, у вырай паклічуць гусі.
І мяне ў халадах нябёс
Пад крыло сваё
Возьмуць хмары.
Ні купцоў, ні цаны,
Мой лёс,
Нам не месц
На зямным базары...

# Набела!

У ветры дзікім — не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.
Уладзімір Дубоўка

Беларусь,
Цябе задумаў лёс,
Надзяліўшы борам,
А не морам,
Даў дазвол наплакаць
Мора слёз,
Каб узяў тваіх суседзяў сорам.

Беларусь,
Цябе падвысіў лёс,
Даў пагоркі,
Абдзяліў гарамі.
Каб сябе высока гнеў узнёс,
Ад якога б ворагі згаралі.

Беларусь,
Цябе прынізіў лёс,
Памяць даў,
Што забывае часам
Мову — суразмоўніцу нябёс,
Верачы падзалачоным чашам.

Беларусь,
Цябе прымроіў лёс
Гонцінкаю зорнага падстрэшша,
Каб гісторыя свой везла воз,
На тваіх ухабах парастрэшшы.

Беларусь,
Цябе акрэсліў лёс,
Як развага на чало набегла,
Русь
Ён без чарнавікоў занёс
На скрыжалі
Белую —
Набела!

# Каложа

*Дануце Бічэль-Загнетавай*

Каложа —
Беларуская ўдава,
Надзеяй і трымаецца над прорвай.
Як, час,
Раўніва неба ні заворвай,
Валошкаю прыкінецца трава,

Вясёлай Васіліхай,
Васілька,
Які пабраўся з песняй,
Гожай жонкай,
Каб не сплыла засвечанаю плёнкай
Цяжкая памяць
Пана-мужыка,

Што панаваў
Над цёмнай араллёй,
Апанаваўшы
Зорныя разлогі,
Што мог павесіць
Веташку на рогі
Сушыцца
Лапаць з цёплаю зямлёй.

Што змусіў неба
Заўважаць царкву,
Якую ўзроўе ўзнесла
Над вірамі,

Хаўрусіў з завірухамі,
З вятрамі,
Каб хараством
Маліцца багаўству.

Плывуць вянкі па Нёмну,
Як плыты,
І жмурыцца байніцамі
Каложа.
Паслухай,
Як яна пытае:
— Божа,
Калі мы аўдавелі,
Я і Ты?

# Куды вецер вее

Тучка по небу плывет...
А. С. Пушкін

Хмарка небам праплывае,
Незямная чараўніца,
Палавее палавая,
Прагнучы распрамяніцца.

Следам,
Як за маладухай,
Шаферамі верталёты.
Вухам слухай,
Нюхам нюхай,
Чым закончацца залёты.

А такія заляцанні
Пазначаюцца на карце,
Дзе пральецца,
Дзе прыстане,—
Ўсе дазіметры на варце.

Расстраляюць маладую,
Толькі не туды скіруе.
І, канаючы, шкадуе
Хмарка ўсю зямлю сырую.

Сплананаваная памылка
Небакрай журбой аздобіла,
Не бабылка-чарнабылка —
Гэта хмарка
Ад Чарнобыля.

* * *

О ты магутны, чалавек,—
Ваўка зрабіў сабакам,
На дровы ўсе лясы пасек
І порахам, як макам,
Гарматам panaпхаў раты,
Каб галасней рыкалі.
Як церні, звіў сабе драты
Уласнымі рукамі.

Знішчаў жывое і хутчэй
Ты штучнае выводзіў,
Як той кашчэй
З усіх вачэй
Глядзеў на здзіў і подзіў
Таго,
Што сам пасля стварыў,
Як вечнае адрынуў,
Благі і добры свой парыў
Вярнуўшы з успамінаў.

# З вышыні самалёта

Унізе агні.
Чалавек такі,
Якое б чорнае гора ні зеўрыла,
Нашчадзіць насенне агню праз вякі.
Жыццё ўсё — змаганне з цемраю.

* * *

Шчырэюць кіпцюркі — і па ствале
Ляціць угору ўвішная вавёрка,
Хвастатая камета,
Ветразорка,
Успых — і знікла ў смаляной імгле.

Шчырэе дзюба —
Лечыць хворы ствол
Лясных навук аглухлы акадэмік,—
Як шума ўсіх дыскусій і палемік,
Імглінкі трэсак сыплюцца на дол.

Шарэе хвост —
Стары птушатнік кот,
Гаспадаром пазбаўлены кватэры,
У лес вярнуцца, тоячы намеры,
Свой правярае генетычны код.

І кожны ў лесе, ў небе і ў вадзе
Насуперак прагнозам дарвінізму
На глебе травянізму, дзервянізму
Свой род і від з упартасцю вядзе.

І грук, і свіст,
І пер'е, і кара —
Жывое ўсё ў нязменных апранахах,
Каб выжыць нам ва ўсенаступных жахах,
Падказвае: задумацца пара.

* * *

Як і сучасны кемны будаўнік,
Бог,
Здаючы аб'ект,
Усё да кропкі
Зрабіў,
Ды непрыкметна недаробкі
Пакінуў —
Працаўнік
Меў свой разлік,

Каб чалавек,
Якога ён стварыў,
Хацеў паправіць
Недаробкі бога,
Каб дарабляў як след
Сябе самога,
Адчуўшы ў працы
Ранішні надрыў.

І чалавек датуль,
Пакуль жыве,
Упарта
Сам сябе перарабляе,
Лісцё гадоў
Зграбае аграблямі,
Свой
Косіць цень
На свежай мураве.

Лягчэй аб мур маўчання
Лоб разбіць,
Чым раскусіць
Сухар пытання прэсны:
Чаго недарабіў
Прараб нябесны,
Што мог
І што не захацеў рабіць?

## Жоўты ліст

Жоўты ліст,
Выпераны вятрамі,
Круцячыся, ляціць на зямлю.
Жоўты ліст
Нейчы лёс паўтарае,
Пакланіцца паспеўшы галлю.

Быў нядаўна шалёна-зялёны,
Быў нядаўна зусім малады,
Жоўты ліст,
Прывітаўшы адхоны,
Сам выносіць сябе на клады.

Жоўты ліст,
Быццам ліс вогнехвосты,
За сабой замятае сляды.
Восень, моўчкі развозячы вёрсты,
Па дарозе бярэ халады
І вязе,
Толькі склыгаюць колы.
Зазімак —
Зухаваты таксіст
Абганяе калёсы вясёла.
Не дапальвай мой след,
Жоўты ліст!

* * *

О гэты тормаз недаверу,
Не дазваляе да канца
Адкрыцца прагнаму намеру,
Які ўцякае ад лаўца.

Не запыняецца пагоня,
А звер бяжыць,
Знікае звер.
Як цені лёсу на далоні,
Сваю з чужою шчырасць звер.

Інакш не спыніцца хістанне
Галін,
Як вецер ні тушы.
І недавер знявер'ем стане,
І зябка зробіцца душы.

# Лямант

...Дзённай спёкаю,
здаецца, апяклася ноч.
А песня з поўняю далёкаю
па росах крочыць басанож.

Паўло Тычына. «У Чарнобылі»
(з дзёнціка), 1959

## I

Зноў,
Як на дасвецці чалавецтва,
Чалавеку ўпуджанаму трэба,
Затаіўшыся,
Баяцца неба,
Біць паклон счарнелай галавешцы,
Што пакінула ад саду полымя.
Не святлець ад радасці,
Як з поўнымі вёдрамі
Дарогу пераходзяць,
Бо і чыстая вада зашкодзіць
Можа,
Хоць і прадзеды і ўнукі
Гаварылі на сваім раду:
Няма нічога
Брудней за рукі,
Няма нічога
Чысцей за ваду —
Вада падыме травы пямыя
І нас у шлях наш апошні абмые.
Калі віталі ранней маладую,

Дык пажаданку казалі такую:
Будзь здарова, як карова,
І багата, як зямля,
І пладліва, як свіння,
А тут і зямля
Заглынула атруту,
Панюхаць боязна
Мяту-руту.
Нельга радавацца сырадою,
Бо заручаны сырадой з бядою.
Не заручаны —
Атручаны.
І матчына малако святое
У сабе нешта тоіць не тое.
Няўжо
І Млечны Шлях атруціцца,
Пакуль зямля наша
Цяжка круціцца?
Няўжо гэта людзі павінны
Зіхоткай хмурыны,
Зямлі і вады,
Як бяды,
Як духу злога,
Баяцца
Пад чорнымі крыламі слова
*Радыяцыя?*
Мы адракліся ад свету старога,
Атрэслі яго, як пыл,
З нашых ног.
Дарагою была перамога,
Аніякі нас вораг не змог.
Няўжо гэта ў радыеактыўным пыле
Задыхнуцца нашыя песні,
Нашыя казкі, былі?
І ўсё жывое ў вочы свяціл
Зямля атрасе, як пыл?

## II

Як з гнязда бяды
Птушанят,
Развозяць
Па ўсёй краіне
Палешучкоў
З галавы да пят,
Беларускі ласкавы пагляд
Васільком зацвітае
Сінім.

І страха была,
Чарано было,
І было святла
Да Чарнобыля.
І накормлены,
І прытулены,
А ля Гомеля
Рукі матуліны
Хочуць гладзіць
Галоўкі кудлатыя.
Абміні іх,
Бальніца,
Палатамі!

А пачуюць
Мову дзядоў,
Зацвіце,
Як дома, дзядоўнік,
З сёл далёкіх,
Насупленых гарадоў
Павядзе
Да босых слядоў
Дух вяртання —
Вечны вандроўнік.

Кім жа вернуцца
І калі,
Перабыўшы вырай нязолкі.
На сваю зямлю,
Дзе раслі,
Дзе паверылі роднай зямлі,
Да бусла,
Да шпака,
Перапёлкі?

# Клічнік

## I

Вы чуеце:
Ядзерная зіма
Планеце ў патыліцу дыхае?
І сеецца снег нябачны сяўма,
Пакуль дыпламатыя ціхая
У анямелыя б'е званы
Ці мудра за вухам чухае,
Жуда гатова ўвесь шар зямны
Абняць ледзяной кальчугаю.

Кальчугу гэтую
Зняць з зямлі
Не зможа сонца ахрыплае.
І космас доўга чакацьме,
Калі
З імглы
Планета
Такая, як наша,
Выплыве...

## II

Нам ад Сезама не знайсці ключы.
Штодзень, штогод вяртаемся да Бібліі,
Якое там яшчэ выслоўе выплыве,
Каб нашу будучыню прадрачы.

Пра дом, пабудаваны на пяску,
Пра шчадрыню,
Што спажываць няма каму.
Таіўся ў атаме,
Бы ў зерні макавым,
Жах
І пачаў выпроствацца ў паўзку.

А ён яшчэ хавае кіпцюры,
Як сквапны кот
У мяккія падушачкі.
Яго лютосць самохаць не патушыцца.
Карону пыхі з галавы здзяры,
Наіўны чалавек,—
Ты гаспадар
Над кім, над чым?
А плынь жыцця плыве чаму?
І рады будзем следу чалавечаму,
Паклаўшы плён
На вогненны алтар.

* * *

Душа, як ні прагнецца ёй,
Не можа вярнуцца ў паганства:
Лясы — апірышча і прытулак —
Павысечаны, пакарчаваны, патраляваны,
Рэкі — у іх бруд і пыл змываўся,—
Павысушаны, павыпрастаны, павыпіты.
Як ацішэць, абымшэць, адтаць?
Куды ні кінься — парасонікі, хмызнякі.
Як перасedзець бяду
З чарацінкай у роце,
З пластмасавай,
Кактэйльнай у водападобнасці,
Вясёлкавай ад мазуту,
Падступнай ад радыяцыі?
І непрытомная душа ў паганстве
Асланяе сябе крыжам,
Крыжам чарговай магілы...

# Першы снег

> Снег ніяк не ўпадзе. Адзін сняжок быў упаў, дык радыяцыя павялічылася ў 7 разоў. Лепш, каб ён не падаў пакуль...
>
> З ліста Уладзіміра Верамейчыка ад 12 снежня 1986 года з Ведрыча

Першы снег дырэктару школы
(Ёй аддаў 23 гады)
Не такі пяшчотны і кволы,
Не такі чаканы, вясёлы,
Як ён сеяўся заўсягды.
Падае першы снег на долы,
Белымі слязьмі на клады.

Вучні хочуць гуляць у снежкі,
Рэху горача ад уцех.
На дырэктарскіх дум узмежкі
Выпадаць сабраўся без спешкі
З неба маннай спадманнай снег.
Смутак зырыць з-пад кожнай стрэшкі,
Брэх якоча, смялее смех.

Мендзялееўская табліца
Зразумелай робіцца ўсім,
Першакласнік і выпускніца
Элементы ведаюць, сніцца
Сцяты атам, мірны зусім,
І прарока Іллі калясніца
Забаўкаю здаецца ім.

Прамянець,
Апраменіць,
Праменьчык —
Словы сэнс памянялі свой,
І шпурляе адчай каменьчык
У гарод з буянай травой.
Пазірае на снег Верамейчык
З пасняжэлаю галавой.

* * *

Дождж ідзе —
                    чуваць,
Снег ідзе —
                відаць.
Змрок непрыкметна ступае.
Бяду адчуваць,
Радасць вітаць
Умее крыўда сляпая...

# Перасцярога

Чарнобыльскі пыл, як смецце,
Вятры пазмятуць куды?
Жывём мы на гэтым свеце
Заложнікамі бяды.

Пылінкі, пылінкі, пылінкі,
Імглінкі надзей і людзей.
У небе з дрыготкай былінкі
Страсаецца знічка радзей,

Яна да зямлі дакрануцца
Баіцца,
А можа, зусім
Не хоча,
Бо ліўні лінуцца —
Прыспешнікі лютасных зім.

І выйдуць завеі на шпацыр,
Абрэзаўшы рукі галлю,
І вечная сцюжа ў панцыр
Заложніцай возьме
Зямлю.

* * *

А жаўтароцікі-сланечнікі
Ад страху круглымі ратамі
Крычаць маўкліва,
Просяць нечага,
І вецер іх мальбу вяртае.

Іх сонца ў гнездзішчах пакінула,
Плыве адно ў блакіце высака.
Ўзляцеўшы над зямлёю,
Рызыка
Усё здзіўляецца,
Па кім яны...

* * *

А казкі ведалі раней за нас
І нораў наш,
І ўсе, што будуць,
Войны,
Характар маючы
Пяшчотна-мройны,
На чорны дзень
Рабілі свой запас.

Збіралі казкі
Птушак і звяроў,
Іх надзялялі кемпасцю і ўмельствам,
І мовай, каб усім жывым сямействам
Трымаліся сваіх балот, бароў.

Каб пільнаваліся
Мясціны той,
Дзе расцвітаюць папараць і лотаць,
Каб чалавек кусаў сябе за локаць,
Застаўшыся сам-насам з глухатой.

Калі ані капыт,
Ані крыло,
Ні лапа асцярожная,
Ні дзюба
Не спудзяць цішыню,
Ні жолуд з дуба
Не грукнецца ў падземнае жытло.

І будзем,
Каб людзьмі застацца,
Мы
Па згубленыя намі
Шчырасць, ласку
Вяртацца,
Каб згадаць багацце,
Ў казку,
Гартаючы ўцалелыя тамы.

# Забытасць

Конь, дачушка, сабака, калёсы.
Бацька лейцы трымае ў руках.
Вечар хіліцца перапялёсы
Пакалоцца шчакой аб пракосы.
След падкуты,
Абуты,
След босы.
Стук і склыгат
Чуваць у вяках.

* * *

Спакойнае месца,
Дзе
Задумацца можна,—
Бальніца.
Адчай,
Як Хрыстос па вадзе
Ідзе —
Не папросіш спыніцца.

Прыціхлыя соты палат,
Напоўненыя пакутай,
Хаваюць
Свой сумны пагляд,
Цярпліва
Таргуюцца з лютай.

Збялеласць халатаў,
Прасцін,
Збалеласць
Прыгаслых абліччаў.
А тая,
Што мусіць прыйсці,
Ліхвярна
Ахвяру аблічыць.

І ўся сумятня мітусні,
Як трэскі,
Сплывае на волю

Па вечнай бруі быстрыні,
Ракі чалавечага болю.

Не хоча паддацца бядзе,
Баіцца,
Што скрозь не паспее,
З палаты ў палату ідзе
Сястрой міласэрнай
Надзея.

* * *

Ёсць толькі агонь і тло,
А болей няма нічога,
Натое вада,—
Каб агонь заліло,
Натое паветра,—
Каб рэха жыло,
Зямля,—
Каб радзіла аблога.

Таму і ў вочы агню
Глядзім —
Не адводзім пагляду.
І слухаем згорбленую цішыню,
Што прыйдзе забраць нас,
Каб не ўпершыню
Аддаць неўзаранаму ляду.

І мы, зрабіўшыся тлом,
Панюшкай попелу, тленам,
Атуленыя забыцця крылом,
Аднераставаўшы свой крыгалом,
Паўторымся ўздыхам леным.

* * *

Верым, што лепшая частка жыцця —
Тая, якую пражыць мы збіраемся,
Чорныя думкі адкінуць стараемся.
Хай яшчэ ў ступе таўчэцца куцця!

Частка,
Якая ў запасе яшчэ,
Вешкамі добрых намераў правешана
І за пражытую, марную,
Лепшая,
Гэтая ўжо неўзнаку не ўцячэ!

Потым штораніцы да забыцця
Цешымся марай,
Наіўнасцю грэшнаю.
І адарае нас хітраю рэштаю
Хітра прыжмураны
Ветах жыцця.

* * *

А ўсе клапоты нашыя
Каля
Жытла і тла
Прымае немінучасць,
Штодзённым тлумам
Поўніцца
Зямля —
Прыёмная ў нябыт
І ў неўміручасць.

* * *

Непадкутай душой
Па лядку недаверу
Абмінаць здрадасферу,
Праставаць як шашой.

Падаб'ецца душа,
Абаб'ецца трывога,
Ля слупа ветравога
Загалосіць імша

Па душы маладой,
Не падкутай пакутай,
Радасцю не пачутай,
Прыхінутай бядой.

Заблішчаць ледзяшы
На лязоўі аеру,
На лядку недаверу
Слізгавата душы.

* * *

А я назваў бы, далібог,
Усё жыццё тэатрам ценяў,
Скасіў свой ранішні мурог,
Сваіх стаеннікаў распрог,
Прыйшоў са змроку — ў цемру лёг.
Адлетуценіў.

Адбіўся ўсмешкай на вадзе,
На лузе, дзе жыве трава ўся,
Забыўся радасцю ў бядзе,
Стаміўся ў тлумнай чарадзе,
Падбіўся к вечару ў хадзе.
Адвандраваўся.

Сябе спыніць захоча спех,
Каб затрымацца ў кожнай рысе,
Дзе час закруціць крутабег.
У новы вецер, новы снег,
У новы плач, у новы смех —
Глянь, чалавек,— твой гнеў,
Твой грэх
Ператварыўся.

* * *

Пакуль малады,
Ты прыгожы
Сваёю красою часовай.
Спяшайся ў сваім падарожжы,
Да свету сябе прыстасоўвай.

З гадамі —
Краса твая ў справах,
У клопатах шчырых, спрадвечных.
На ворыве ў скібах каравых
На плён сваё права аспрэчвай.

На схіле
Сваёй дабрынёю,
Сваёй шырынёю адметны,
Трымай, як вяслом, даланёю
Той човен,
Што ў край апраметны
Плыве і чакае цябе.
Хай дно яму жвірам скрабе!

# Дарожны матыў

Калі атуліць сон
Вагона шумны табар,
На доўгі перагон
Ідзі ў самотны тамбур.

У цішыні начы
Заслухайся лагодна,
Як колы уцячы
Не могуць з-пад вагона;

Як за сабой гудок
Бяжыць з-за павароту,
А месяца лядок
Смяецца жаўтарота.

Самім сабой на міг
Пабудзь далей ад тлуму.
Тут можна падыміць
І ўсё, што хочаш, думаць.

І пальцы скразнякам
Прыціснуўшы дзвярыма,
У далечы знікай,
Як ціхі выдых дыму...

# Кругазварот жывога дрэва

Кругазварот жывога дрэва,
Нібы кругазварот крыві,
І чоўнам зробіцца,
Як трэба,
І дамавінаю — плыві

У заўтра
Ці ў сваё ніколі,
Турботны чалавек,
Віні
За ўсю несправядлівасць голле,
Цані
За ўпартасць карані,

Бо карані з цябе,
Былога,
Галіны выганяць з зямлі,
Каб цёмным імем духу злога
Твой ценькі прывід нараклі.

Зялёную, як мару,
Хмару
Паўторыць дрэва ў прастаце,
І паратунак дасць, і кару,
І ссечанае адрасце.

У катлавіне на Нямізе
Стаю ў трывозе.
А на дне

У глыбіні вякоў,
Унізе
Тырчаць сукі на бервяне.

Абгладзіць цеслі не паспелі
Цяжкой сякерай бервяно,
Здалёку ў глеістай пасцелі
Свой сон дагледжвае яно.

А кроў паспела паўтарыцца
Кругазваротна ў новых днях.
На гліну нератлела крыца,
Застыў адлік гадоў на пнях.

Век чалавечы
Час на мігі
Адмераў,
Палічыў камлі.
Я не пытаюся ў Нямігі,
Дзе я праб'юся з-пад зямлі.

# І зноў пра сумленне

Сумленне таленту радня,
Як ёсць,
Дык, значыць, ёсць.
Раз не знайшоўся да паўдня,
Не будзе ўвечар госць.

Сумленне,
Хоць са скуры лезь,
Хоць намагайся кпіць,
Ні на паўстаўкі,
Ні на ўвесь
Аклад не прыкупіць.

Хоць зяпу разявай,
Што кадзь,
І ў грамавержцы мець,
Яго не ў іншых след шукаць,
Самому
Варта мець!

## Госць

У якіх бы ні быў краях
І якія б ні бачыў землі,
Дзе твой дух маладзеў і крыяў
Ад паветра на дзікім зеллі,

Ты пабыў, ты пагасцяваў
У краіне жыцця,
Краіне,
Ціхадушнай да ўсіх праяў,
Да цябе,—
І цяпер ва ўспаміне

Дажывай апошнія дні,
Хочаш — іх называй гадамі.
Толькі зорка ў начной глыбіні
Разгаданы твой сум гайдае.

* * *

А што было ў сярэдзіне ў зімы,
Убранай у бялюсенькае футра,
Як сыдзе снег,
Урэшце бачым мы
І познім розумам мяркуем мудра.

Драты, балты,
Гразюка каляін,
Засохлы парастак, на сонца ласы,
І на асфальце крэйды напамін,
Што дзеці тут вясной гулялі ў класы.

Разгледзеўшы наскрозь
Усё як ёсць,
Спяшаем да вясны ў зялёнай сукні.
Зноў жаўталіст.
І сівабровы госць
У змерзлы дол крамяным кіем грукне.

І будзе казка новая наноў
Зімы,
У футра беленькае ўбранай.
Ні каляін, ні рыжых дзірваноў,
А толькі самабранкі на палянах!

* * *

У скрухі прашу суцяшэння:
— Заўчасна мой смех не тушы!
Калі пацярпяць крушэнне
Мае ветралётныя дні
І зямное
Закончыцца падарожжа,
Апусціцца
Чорная скрынка маёй душы
У які акіян забыцця,
На якой глыбіні?
І хто яе вылавіць зможа,
Чорную скрынку маёй душы?

# Выйсце

Сябе ж работай выручай,
Бяры няшчодры ўзятак дзён,
Каб страх на момант знік,
Каб не напамінаў адчай,
Што за табою сочыць ён,
Твой скон —
Глухі двайнік.

* * *

Душа пачынае сціха́
Па вырaі вечным нудзіцца,
Ёй хочацца зноў нарадзіцца,
Каб зноў ахінула страха

Наіўна-нявінныя сны,
Як птушка-вястушка,
Двухкрыла,
Каб рунню вясна адарыла,
Нібы з рукава, з баразны.

Чакай, шчабятуха-душа,
Не доўга табе засталося,
Дай мне наламаць,
Як калосся,
З бярозы касатай вішша́.

Каб перад спякотай чысца
Спрачаўся пан венік з плячыма,
Каб ты перад тым адпачыла,
Як брацца спачатку,
З канца

За новы свой боль,
За адчай,
За нованароджаны верад.
Чаго ты спяшаеш наперад?
Чакай.
Мне задумацца дай!

* * *

Перасяленне душ і хутароў,
Пераадольванне, пераасільванне.
Душа гібее ля чужых двароў,
Ёй зябка ля казённых каптуроў,
Жывая,
А як быццам перасыльная.

Яна перасяляецца сама
Туды,
Дзе звыклася, дзе прыцярпелася,
Дзе самая цяплейшая зіма,
Дзе ноч як дзень,
Дзе воч пустых няма,
Дзе соты смутку
Верасковай спеласці.

Сябе самую доўга валачы
Душы
Дарогай дрогкай непадкутаю,
Чапляцца за калоды, за карчы,
Спаць у балоце, долю кленучы,—
Каб жыць на хутары
Сваёй пакутаю.

* * *

Завыць ваўком зусім не проста,
Патрэбна ціша, халады,
На снезе хрумсткім, як бяроста,
У цемру збеглыя сляды.

Вятры патрэбны нізавыя,
З пазёмкай зябкай на лычах.
Воўк без прычыны не завые
Да чорнай гаркаты ў вачах.

А можа, воўк зусім не вые,
А голасам галосіць так
Па тых сябрах, што як жывыя
Ператварыліся ў сабак.

Галосіць, што яго абклалі
Сцяжкі жуды з усіх бакоў,
Што абакралі
Тыя далі,
Дзе вёўся род ваўкоў
З вякоў.

Згадаўшы цёплы дух аўчыны,
Завыць ваўком захочаш сам,
Каб сум твой,
Быццам цень ваўчыны,
Дарогу перайшоў лясам.

Бярозкі свецяць,
Што свячыцы,
У прыпамінаў
Ля вакон.
Галоўнае —
Не развучыцца
Самотнаму
Завыць ваўком!

* * *

А ўжо на дне каўша
Глыткі быцця нясмелыя,
А ўжо на дне каша
Ўсе яблыкі даспелыя.

Даспелі так —
Ажно
Наскрозь да семак свецяцца.
Лацно
Ступаць на дно,
Дзе спёка золлю злеціцца.

Глыток,
Яшчэ глыток —
І коўш да дна асушаны.
Яшчэ адзін хадок
У садзе сноў спакушаны.

І дно відно ў каўшы,
І кош усохся рэбрамі.
Спалох
На дне душы
Даверам цемры грэбуе.

* * *

Адчай? Магчыма, што адчай.
Ці стома, як зямля сырая,
Гняце.
Няўжо на самы край
Прыйшло жыццё і зазірае
З абрыву ў жудаснае дно,
Адкуль няма вяртання ўгору.

І сам сабе кажу: «Рыгору!»
І ўспамінаю заадно
Граматыку і клічны склон,
Што з даўніны гукае: «Коню!»

Гады ўцякаюць, я ўдагон
Пускаю познюю пагоню,
Пагоню каяннасці, віны,
Што я ні за панюх табакі
Час змарнаваў.
Са мной адны
Забытай радасці сабакі.
Мае галодныя харты,
Яны згубілі след надзеі.
Вышэ ўсё абрыў круты
І нелюдзее,
Нелюдзее.

* * *

Цяпер і ўспамінаць
Баюся злую тую.
Як блазен малады,
З ёй болей не жартую.
Хачу сваё пражыць,
Адведзенае лёсам.
Ды не сачы за мной
Сваім наглядам косым!
Чужога не прашу,
Дай быць,
Аддай маё мне!
Даверыла жыццё
Мне ўсе каменяломні.
Сякераю тупой
Я іскры выкрасаю,
Згасаю кожны дзень
І зноў уваскрасаю.

# Надзея

Пакуль гадуюцца маладыя
Вачыстыя,
Ідэальна худыя,
Якія ўмеюць ва ўсім сумніцца,
Круціцца будзе наша зямля,
Цвяліцца ў небе будзе сініца
З аднойчы злоўленага жураўля.

Пакуль маладыя
Вачмі сваімі,
Што не прыцьмелі ў штодзённым дыме,
Угледзець змогуць на сонцы плямы,
У студні праўды ману на дне,
Вірамі будуць смяяцца ямы,
Малоцца пырскі ў крутым млыне.

Вясной надзея на лісце ў дрэва,
Не просіць смеласць літасці ў гнева.
Спакой яшчэ недзе спіць за гарамі,
Спакой пільнуе свае гады,
Лаўжоўе паліць і сам згарае
Дзень, як юнак,
Малады-малады!

* * *

Сябры,
Якім давяраў я
Свае таямніцы бессаромныя,
Пастунова туды адышлі,
Дзе маюць час зразумець
Таямніцу вечнасці.
Тое, што не паспеў адкрыць,
Што не даверыў ім,
Што вагаўся сказаць,—
Адкрыю,
Даверу,
Скажу.
Пры сустрэчы.

# Чарга

Займаем чаргу ў жыццё прыйсці
І цеснім адзін аднаго жывога,
Займаем чаргу ў небыццё адысці
І цеснім цені ў гасподзе бога.

* * *

Калі заблудзішся ў лесе,
Выходзь да людзей,
Калі заблудзішся ў людзях,
У космас хіба што
Выйсці?

# Вынік

Пэўна, сама была
Рызыка ўдзячная воку,—
Каб за глыток святла
Помсціць бясконцасці змроку.

# Сцяжынка

Як атуліць захоча бездарожжа
Калянасцю маўклівых каляін,
Адна сцяжынка выйсці дапаможа,
Хаваючыся з бояззю ў палын.
Абабяжыць з вяршыні да падножжа
Юначыя хрыбты, смугу далін,
Цярплівасцю знадзеяўшы адрожжа,
Яшчэ зірне на выраевы клін.
Бяжы сцяжынкай з чыстай асцярогай
Ерэтыком набожным, каб дарогай
Лягла сцяжынка толькі для цябе.
Аднойчы ўгледзеўшы сцяжынку тую,
Расці душой, і лёс цябе ўратуе.
А жаўталісце вецер адграбе.

* * *

І тчэцца сутак радно з завей,
З мігцення промня і ценю яліны.
У час прагулянкі адно зразумей:
Прырода не мае і вольнай хвіліны.

# Што ёсць каханне?

Што ёсць каханне?
Бессаромнасць,
Ці сціпласць,
Што не ўздыме воч,
Ці разгаўленне,
Ці скаромнасць,
Ці ў зорках дзень,
Ці ў сонцы ноч?

Ці вечны грэх,
Ці пакаянне,
Ці сум цяжкі,
Ці весялосць?
Пакуль не стоміцца
Пытанне
Пытаць,
Датуль каханне
Ёсць!

* * *

Ты маўчаннем лісты пішы,
Хай плывуць на марудных паромах.
На задворках тваёй душы
Лепей, чым у халодных харомах.

А калі разыдзецца гром,
Далягляд абкладзе навальніца,
Ведай,
Гэта паспеў паром
Аб самоту чакання разбіцца.

Ты маўчаннем пішы лісты.
Як пісаць —
Запытайся ў карэння.
Забароннае, з нематы
Загрыміць цішынёй нецярпенне.

* * *

А лепш не сустракацца з тымі,
Што толькі адбалелі,
Што, як бярозкі ў сіняй стыні,
Завейна адбялелі.
І тыя ж губы, тыя ж вочы,
І тыя і не тыя.
Асвойчыць немагчыма двойчы
Два бугаркі крутыя.
І тыя ж бровы, тыя ж рукі,
І тыя і не тыя.
Суцішваюцца словы, рухі —
Цяпер яны былыя.
Далёка зарыва палае,
Змрок цені выглядае.
Адна
Што хіба не былая —
Трывога маладая.

# Першая госця

Грукаецца — чую я —
Госця пешая.
Адчыняю: — Я твая
Старасць першая.

Думаў ад мяне ўцячы
Зайкам шэранькім,
Кідаў у раку ключы
Ды шашэрыўся.

У цяньку наіўных дрэў
Ахалоджваўся,
Спаў салодка, смачна еў,
Прымалоджваўся.

Маладых вачыма пас,
Часам пашчыўся.
Думаў абысці якраз
Злыя пашчы ўсе.

Пашчу немачы, тугі,
Пашчу кволасці.
Ты не першы, не другі
З хітрай воласці.

Я не жонка, што ў журбе
Дружыць з поштаю.
Я і першая ў цябе,
І — апошняя.

# Адвечная тэма

Калі архангельскія трубы
Апавясцяць пра страшны суд,
Я, не збаяўшыся пакут,
Успомню,
Што шапталі губы,
Што, пэўна, быў табе я любы.

Калі тугі тугія лукі
Абрынуць стрэлаў горны град,
Сустрэць я стрэлы буду рад,
Успомню,
Што крычалі рукі,
І шчырасловы, і манюкі.

Калі зацíхне гром прарочы,
Забытыя збудзіўшы дні,
Я не ўстрашуся цішыні,
Успомню,
Што маўчалі вочы,
Спавіўшы смутак па-жаночы.

Яны далёка,
Стрэлы, трубы.
А покуль ты са мной сама,
Мне часу ўспамінаць няма.
Смяюцца рукі,
Помняць губы.
Суцíш хаду, мая зіма!

# Шахта кахання

Першага позірку ўз'юшаны выкрык,
Золаку, зарыва, зор палыханне.
Вочы адводзіць ад кепікаў прыкрых
Блізкае рэха
шахты кахання.

Першага дотыку саманахабства,
Першай рашучасці самаваганне.
Вабіць спадманліва ў хітрае рабства
Гулкае рэха
шахты кахання.

Першага выдыху вечнага слова
Замілаванне і заклінанне.
Водзіць упоцемку хмельнагалова
Рэха прыглухлае
шахты кахання.

Першы лядок працірае завея
З возера крыўды і шкадавання.
Рэха блукае.
Глыбее, глыбее
Шахта кахання,
шахта кахання...

# Спадзяванне

Я выношу пакуты на ўласным гарбе,
Ды на помач паклікаўшы боскую сілу,
Спадзяюся,
Што ўрэшце спаткаю цябе
За сем кіламетраў ад небасхілу...

* * *

Калі наведаецца адвячорак
У мой настрой,—
А мой настрой, як сад,
Дзе дрэвам
Цяжкавата без падпорак,
Як сэрцу ад пустых парад,
Ад звад,—

Тады самоту пільную
Вітаю —
Нідзе не дзецца ад яе вачэй —
І малітоўнік вечнасці гартаю
І не здымаю груз гадоў з плячэй.

Калі наведаецца адвячорак
Намацаць сцежку
Для сляпой начы,
Я натрасу,
Як тых арэхаў, зорак,
Табе святло ў паглядзе
Несучы,—

Каб не блукала ты
Ў былых мясцінах,
Успамінаючы пра тыя дні,
Калі маланка нас употай кціла,
Калі шапталі ліўню:
— Захіні!

# Валі

Тваё дыханне на маім плячы
Журлівае, як веснавое ранне.
Ты памаўчы,
Давер мне, даручы
Не гаварыць нічога пра каханне.

Хай скажуць вочы,
Ім відней, вачам,
Хай скажуць рукі,
Што хмялеюць самі.
Хай скажуць ночы,
Ім цямней, начам,
Кунежыцца з тваімі валасамі.

Хай скажа нам смех праліўны даччын,
Хай нам раскажа даччына слязіна,
Пакуль твой сон з высокіх аблачын
Зляцеў і ты глядзіш яго нявінна.

Хай лепей скажуць радасць, і жуда,
І першая абраза, і спагада,
І нашых сварак быстрая вада,
Што б'ецца не цішэй ад вадаспада.

Канае ноч, і новы дзень гарыць.
Складзем падзяку згодзе і пашане.
Не будзем пра каханне гаварыць,
Паслухаем,
Што скажа нам каханне...

* * *

Каго, каму я і чаму
Чакаю, веру і сумую,
Бяду,
Як п'яную куму,
З гасцей вяду
Ў зіму сівую?
Ідзе са мной
Мая бяда
З маімі сумнымі вачыма.
І мне маёй бяды
Шкада,
Са мной бядзе цяплей,
Магчыма.
Даўно ўжо ўкінула лядня́
Ілля ў раку,
Радня, як лісце,
Апала,
І на схіле дня
Ўдваіх мы ўрэшце
Засталіся.

# Нумар незабудкі

Запахла ў лютым сакавіком.
Выходзіць юнак
З тэлефоннай будкі,
На далані
Шарыкавым алаўком
Запісвае нумар
Сваёй незабудкі.

# Элегічнае з лебедзем

Я жыву, чакаючы цябе,
А ў заліве ўжо з'явіўся лебедзь.
Хоць яшчэ завея
Снежкі лепіць,
Лебедзь весні ў светлай харашбе.

Гэта я
Свайго цярпення крыгу
Адкрышыў і воды асвятліў.
І са мной хвалюецца заліў.
Можа, лебедзь пачакае крыху?

Прыязджай хутчэй!

* * *

Сум ціхімі вачыма пас,
Калі ў душу самота гляне.
Лагоднасці вучыла нас
Сляпая логіка кахання.

Гулі наіўнасці чмялі,
Пяшчотай поўніліся соты,
Мы кубак радасці пілі
За дыялектыку маркоты.

* * *

Ці шчасце ў тым,
Каб захлынацца з гора,
Калі цябе ў Сусвеце ўсім няма
І вечнасцю здаецца тое ўчора,
Якое знікла, як і ты сама.

Ці гора ў тым,
Каб не патраціць шчасце,
Пакутаваць, дрыжэць за кожны міг,
Што дазваляе вуснамі прыпасці
Да шляху млечнага слядоў тваіх.

І ўсім вякам не адказаць пытанню
Ні шалам вёсен, ні развагай зім.
І будзе ў вcase кожнага па тайне,
Што ў досвіткавым позірку тваім.

Пакуль мяне палоніць шчасцем гора
І шчасце горам кружыць галаву,
Мне неба — як надзейная апора,
А на зямлі —
Цябе чакаць жыву.

## Зразумеў

Зразумела цяпер,
Што такое
Засохлыя карані,—
Гэта, калі вада
Іх пакідае.
Ты паехала,
Мне засталося
Стаць вартаўніком цішыні,
Я пастарэў,
А бяда
Засталася са мной,
Як і ты,
Маладая.

# Мужчынская логіка

Хоць убок скіраваны
Кожнага позірку жых,
Хоць дома з жонкай,
Як айсберг з ільдзінай,—
Патрабуе каханак
Ад жонак чужых
І спёкі паўдзённай,
І вернасці лебядзінай.

* * *

Туман, як халодная воўна,
Што ноч настрыгае ваўку.
Паверыць жанчыне ўсё роўна
Як дом збудаваць на пяску.

З той воўны б вязаць рукавіцы,
Дарыць залатому агню,
Каб полымем мог ён узвіцца
І дню апячы даланю.

Пясок у рачныя лашчыны
Знясе, і растане сцяна.
Ты будзеш чарговы ў жанчыны,—
Як рэчка ў разводдзе, яна,

Што кволы спакой твой змывае,
Мяняючы рэчышчы,— і
Наступны свой бераг прымае,
Дзе сохнуць па ёй салаўі.

* * *

Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Не разбудзіўшы напаміны,
Ссівеўшы на глухой сяўбе,
Стрываю ўсе абразы, кпіны.
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
У харашбе,
У варажбе
Усю святую
Да хвіліны
Я выцісну цябе з сябе,
Як выціскаюць яд змяіны.
Чаму мне злосці не стае,
Каб рэзаць там,
Дзе ўкус змяіны,
Каго вініць?
Усе правіны —
Яны мае, мае, мае!

* * *

Рака,
што пада мной смяялася,
сплыла,
разбілася люстэрка,
і толькі смех яшчэ гучыць
у берагах зыбучых памяці...

* * *

Што дакранулася да дна,
Раптоўна адрываць балюча.
Самоты вырасце сасна,
Акрэсліцца расстання круча.

А будзе шчэрыцца абрыў,
Пакуль трымаецца карэнне.
Ты кручу тую сам стварыў,
Цябе сасна сама сустрэне,—

Каб адшумець, і адцвісці,
І адшчымець, і стаць вясновай.
Усё забудзецца ў жыцці,
Усё абновіцца абновай.

І толькі жыцьме сум стары
І стома вечара старая,
Пакуль нямы адчай зары
У сэрцы ціха дагарае.

* * *

З кім гэта я замяніўся вачыма,
З кім і калі?
Жыць, як не бачу цябе, немагчыма
Ні на зямлі,

Ні ў летуценных нябёсах на зорах.
Чуе мой зрок
Кожны твой подых,
Твой шолах,
Твой шорах,
Лёткі твой крок.

З кім гэта я памяняўся рукамі,
З кім і калі?
Вобмацкам дотык цябе сустракае —
Не адхілі!

З кім гэта я памяняўся вятрамі,
З кім і калі? —
Каб да цябе берагамі, ярамі
Вейна вялі.
З кім гэта я памяняў смех
На смутак,
З кім і чаму
Па чарнатропу прывёў першапутак
Ценю твайму?

# Снежна

У змроку
ранішняй завірухі
Няўтульна кроку
самотнай скрухі.
Бялеюць дрэвы,
святлеюць цені.
Вятроў павевы
ў ценькім трымценні.
Сняжэюць далі
светлым здзіўленнем.
Два цені сталі
аднюткім ценем.
Вачэй свячэнне
ў смелым разбегу —
Як прысвячэнне
першаму снегу...

# Табою

Табою пахнуць сцежкі, палыны,
Цябе чакае
Восень маладая.
Здаецца,
Ты з той сіняй даўніны,
Што з-пад рукі са мною выглядае,
Калі ты прыляціш шчымлівай ластаўкай,
Каб захлынуць і ласкаю, і пластыкай.

Табой смяюцца вочы,
Сняцца сны,
Табой заходзіцца туга глухая.
Здаецца,
Ты ідзеш з-пад той сасны.
Што мне яшчэ галінаю махае
З зайздрослівым дакорам,
Са спагадаю,
Дзе сорам наш зажмурыўся,
Нагадвае.

Прыходзь ці прылятай,
Абы была,
Ці наталі,
Ці дапалі датла!

* * *

Ні дакорам, ні папрокам,
Ні аброкам рук, ні вокам,
Ні абразаю —
Будзь на волі,
Мне даволі —
Не навязваю.
Мне даволі той салодкай
Радасці з луджонай глоткай,
Што галёкала,
Люба-міла мне маніла
Ўсё навокала.
Дзякуй, што маніць умела,
Дзякуй, што кахала смела,
Што не мучыла,
Патурала, паўтарала,
Перавучвала.
Цвеліцца з даверу здрада,
Здрада быць наіўнай рада
І прыкінецца
І крыўдлівай,
І ўраклівай
Імянінніцай.
Імяніны той сустрэчы,
Дзе ты ў змрок туліла плечы,
Зноў паўторацца
Не са мною —
Зноў з маною.
Хай Вам зорыцца!

## Паштоўка Ілоне

Доля —
Вогнехвостая лісіца
Замятае, палячы, сляды.
Да яе ў сябры не напрасіцца,
За лясамі пазычае сітца,
На якое сеюцца гады.

Чым мякчэй памол,
Лягчэй імгліцца,
Асядае прывіднай імглой.
Стол —
І хрэсьбін, і хаўтур сталіца,
Як і дол,
Не можа наталіцца
Морам гора,
Радасцю малой.

Поле долі
І слязой расіцца,
І глушэе ў бур'янах бяды,
Толькі б спадзяваннем каласіцца.
Доля —
Ціхалапая лісіца
Абмінае ўласныя сляды.

* * *

Здорава пад ушацкую завіруху
грэцца ўтрапёным Парыжам.
Апячы далоні і вусны каштанамі
з гарачай жмені жароўні.
Ядзэнне гэтае нагадвае
пастухоўскі ласунак
з вогнішча ўвосень,
калі да чарнаты падгарыць бульбіна
і даўкай белай мякаці
не стае шэрых дажджынак солі.

Апячы ўпотайкі пажадныя думкі,
нібыта не бачачы
сексакарыятыд,
што голалыгія і голарукія
падпіраюць вуглы дамоў і пад'езды,
а на аднаведным месцы
з чырвонага замяняльніка скуры
гарэць лісцінкі фігавыя,
як карты званковай масці,
з выклікам пытаючыся,
чый козыр старэйшы.

Апячы душу сустрэчай
з маладымі сваімі гадамі,
п'ючы з цяпер да канца парыжанкай
гарбату на бульвары Сен-Жэрмен

у кавярні,
якую любіў Віктар Някрасаў
і дзе ён казаў пра сваё захапленне
асобаю Васіля Быкава.

Апёкшыся радасцю,
можна доўга дзьмухаць пасля
на смутак паўсядзённасці,
слухаючы рухавую завіруху.

# Білет
# з парыжскага метро

Білет з парыжскага метро,
як лістападаўскі жаўталіст,
магічна праводзіць па хітрых ходах
абжытага, абгараджанінага падзем'я,
дзе рэкламы запрашаюць у Нью-Йорк
за 2000 франкаў,
раюць, які крэм і як расціраць,
каб цела было сексуальна прывабнае,
прапануюць ласкавую мяккую мэблю,
у якой самі сябе рэкламуюць
паставы адпаведна-пажадныя.
Грае лацінаамерыканец,
як наш асмуглелы Лявончык,
на такіх жа,
амаль як у нашага дока, цымбалах,
толькі, магчыма, крыху зычнейшых,
зрэдку ападаюць у самотны капялюш
скамечаныя лісцінкі франкаў
ці бязважкая луска драбязы.
І на зямлі, і пад зямлёю
доля гуслярская
прыблізна аднолькавая.
Лістапад на парыжскіх вуліцах
ідзе ў сакавіта-зялёнай вятроўцы,
лістапад у падзем'і
хваравіта бляднее
ў электрадзённым святле.
І прыходзяць сюды пушкінскія радкі:

*А на далёкай поўначы — ў Парыжы —*
*Магчыма, неба хмарамі акрыта,*
*Халодны дождж ідзе і вецер стыгне...*
Наогул, усё адносна адноснае —
і праўдзівасць і мана,
і прызнасць і варажэча,
і далеч і блізкасць, і спёка і сцюжа.
Гэта ў злядзелым падзем'і шахтаў
Авідзій трыццаць сёмага года ўздыхаў:
*А недзе там, на поўні, Магадан,*
*Амаль недасягальная планета...*
Як далёка на поўначы Лауры
з «Каменнага госця»
уяўляўся слатой ахінутым
ласкавапагодны Парыж,
як далёка на поўнач у часіны сіберныя
прасунутыя былі сталінскія здраўніцы,
калі Магадан апынуўся на поўдні?!

Білет з парыжскага метро,
як лістападаўскі жаўталіст,
ляціць падзем'ямі прыпамінаў,
следам за ім —
мае думкі восеньскія.

# Сустрэча

У Нью-Йорку, у Вашынгтоне
сустракаўся я з Віцебскам
маладосці мамы маёй —
з вулачкамі-крывулачкамі,
з анёламі сумнымі і вясёлымі,
са скрыпкамі — паветранымі скрынкамі,
з казой-дзеразой,
што бегла цераз масток
і ўхапіла кляновы лісток.
І тут,
у цэнтры Пампіду
(а дзедаўшчына Жоржа Пампіду, дарэчы,
у Заслаўі, у гасподзе нашай Рагнеды),
сустракаюся зноў з Віцебскам.
Бо Шагал родны свой горад
у прадчуванні наступных навал
спяшаўся захаваць на палотнах,
хоць і палотны, таксама як гарады,
знікаюць ад загадаў барбараў
і ад войнаў,
але з вачэй у вочы, з душы ў душу
перадаюцца выявы палотнаў
і такім чынам жывуць у Сусветах памяці.
Калі адразу па вызваленні
у Віцебску
пасля 1100 дзён і начэй няволі
выжыла 118 чалавек,
хоць нехта з іх ды помніў

шагалаўскі местачкаваты Віцебск,
які некаторым апантаным русаманам
закарцела,
ці, як у нас кажуць,
загарэлася бяроста ў задзе,
называць толькі рускім горадам.
І калі гасцінныя французскія сябры
перакладалі мае такія-сякія вершы,
у біяграфічнай кароткай даведцы
значылася:
нарадзіўся ў рэгіёне Віцебска,
у Беларусі,
і тут жа ўдакладнялася ў дужках:
радзіма Шагала.
Для французаў Беларусь
перагукаецца з Шагалам.
І паўсюль
на пашпартах палотнаў маэстра
пазначаны
старадаўнябеларускі горад Віцебск,
які даў яго свету мастацтва.
Славуты «Падвойны партрэт» —
нібы касманаўт,
Шагал лунае з Бэлай, а ўнізе Віцебск.
Дзвіна цячэ,
як Палата ў «Слове пра паход Ігаравы».
Сорак Трэці год.
Бежанцы, як і ў часіны Батыя,
жанчына распрыгоненымі рыжымі валасамі
палае, як газнічка, ў апраметнай,
высвечваючы шляхі пакут, жахаў, ахвяр.
Шагал — сам бежанец з зямлі на нябёсы,
Віцебск насіў у сабе,
каб ніхто не выкраў,
Віцебск з усёй яго людпасцю, жыўнасцю.
Так у свой час Суцін

з хлеўчука ў Смілавічах
у парыжскі салон загнаў свінню ружовую.
Кожны мастак багаты сваёй радзімай.

Я сустракаўся з шагалаўскім Віцебскам
у Еўропе і за акіянам, але ні разу
не сустрэўся з Маркам Шагалам
у нашым Віцебску.
Чакаю.
Dum spiro, spero.

## Традыцыі

Мой самы любімы настаўнік,
выкладчык беларускае мовы і літаратуры,
Фадзей Францавіч Багдановіч
да самазабыцця любіў
свайго цёзку прозвішчам,
Максіма Багдановіча
лічыў ён першым паэтам,
хоць пад той час
афіцыйна-праграмна лічылі не так.
Настаўнік нас папракаў,
што граматыку ведаем кепска,
а вось Максім Багдановіч
замежныя мовы ведаў,
французскую, напрыклад,
як сваю беларускую.
Дык вось,
Фадзей (мы за вочы яго называлі
Чарадзей) Францавіч
пры выпадку і без такога
не ўпускаў падкрэсліць,
што мае адносіны
непасрэдна да Францыі,
бо ён жа Францавіч,
і яшчэ абавязкова даводзіў
вясёлае сцверджанне Лёсіка,
што мова нашая такая ж,
як і французская

(пра гэтае ж яшчэ казаў
і Мацей Бурачок),
у якасці гарэзнага доваду
Лёсік прыводзіў:
*Алёна лён трэ,*
*Іван цяля пасе...*
Фадзей Францавіч у дадатак
незразумела тлумачыў,
што выраз:
*каб цябе пранцы* дужа пашыраны
у паўсядзённай, бытавой лексіцы,
мае таксама французскі корань...
Сёння хаджу па вулках Парыжа,
спрабую грасіраваць *рэ,*
паўтараю сабе пакрысе:
*Алёна лён трэ,*
*Іван цяля пасе...*
А на самой справе
лён Алёна не трэ, бо лён —
ён прадмет старадаўняга экспарту,
і старанна вывозіцца
ў Еўропу, ў Японію,
і потым да нас ідзе гатовым прадуктам,
і Алёна не ў лёне, а ў нейлоне, балоніі
шукае,
каб прачытаць на пашыўцы 100 % cotton.
Іван пры джынсовай красе
цялят не пасе,
дубеючы на сцюдзёнай расе.
пасвіць няма каго індывідуальна,
Іван з камсамольскай рашучасцю
пазбаўлены
усіх комплексаў, у тым ліку,
у першую чаргу,—
дробнаўласніцкага, аднаасобніцкага,
бо за гэтыя перажыткі дзяды і бацькі

цялят адпаслі там,
дзе Макар іх не пасвіў.
Цяляткі цяпер масава, як на культурным
загадзя арганізаваным мерапрыемстве,
адкормліваюцца на комплексах
не мурогам зялёным,
а кормам,
адпаведным нормам, гармонным.
А потым масава, як заплыў на Янцзы,
набраўшы вагу і трацячы яе,
вытрымаўшы чаргу,
рухаюцца на бойню.
Дый мову беларускую,
па сцверджанні Лёсіка
блізкую да французскай,
як цялят са шкоды,
выганяюць са школы,
з высокіх дамоў,
з устаноў
зноў і зноў,
выганяюць дамоў.
А дом, дамоўе, хата дзе?
Ні прытулкаў, ні дамоў прыстарэлых
для мовы яшчэ не прадугледзелі
у перспектыўных планах.

І ні тут, у Парыжы,
ні ў стольным Мінску
нічога сказаць не магу —
цяляты язык ад'елі.
*Алёна лён трэ,*
*Іван цяля пасе*
у граматыцы Лёсіка...

# Французскі смех

*Анры Дэлюі*

Усё, ад парфумы французскай
Да французскіх уцех,
Вядома бадай што любой бабулі,
А што такое французскі смех,
Не скажаце, бо не чулі.

Здаецца, з вар'яцкага дому
Збег
Шалёны і прэцца па чыстым полі;
Здаецца, падраўся з бомамі
Мех
І гукі бомаў усіх на волі;

Здаецца, з неразімелых
Стрэх
Снег
Шухнуў і нерастуе доле;
Здаецца, разбіўся келіх
Калег
І свеціцца ў настроя ў прыполе;

Парыў і надрыў,
Разбег і спех,
Спектакль,
Дзе ўсе вясёлыя ролі.
Вы не чулі,
Як раскашуецца французскі смех,—
Значыць, не чулі смеху ніколі!

# Салют Парыжу

*Барысу Забораву*

Гуляка і філосаф закаханы,
Транжыр і жмот, гультай і працаўнік,
На экспарт звык збываць свае заганы,
Ажно запыхкаўся вякоў цягнік.
Глядзіць з нябёс анёл закалыханы
На твой, напханы Сенаю сяннік.
Грудзей красунь спякотныя барханы
Турбуеш, каб нашчадны пал не знік.

Чырвона-жоўты шалік — фара ў фару —
На Елісейскіх выпасах да твару
Табе, пастух вачэй і душ, Парыж.
Прыняць хацеў бы, як заслугу, кару.
Тваю насмешку ўбачыць марна мару
Я — ўшацкай араллі азяблы глыж.

# Нотр-Дам

Нотр-Дам,
Як нацельны крыж,
На шыі ў цябе,
Парыж,
Жыве, памножаны
Крыжыкамі, крыжамі,
Пераліваючыся вітражамі
З вусця мінуласці
У вусціш наступнасці,
Каб не размінулася
Смутнасць з сутнасцю.
Імша на свята
Усіх святых,
Нібы ў катакомбах тых
Хрысціянска-першасных.
І ты, Парыж,
У стыласць цвердзі
Ілбом упершыся,
Моліш
Усявышняга
Бога
За свае наступныя дні.
А ты, эпоха,
Яго не віні,
Што дужа жыццё
І любіў і любіць,
Што грэшніцу
Хмельна галубіць,

Як галубку голуб лясны,
Божа,
Пашлі яму,
Кавалерыстаму Парыжу,
Бясхмарныя сны,
Без хмар,
З якіх на алтар
Наіўных ахвяр
Асядае пыл радыяцыі
На душы нявінныя,
Як на пратaліны,
Пашлі
Парыжу ўбогакварта́льнаму
І вяльможнапалацаму!
Ніцачолага
І палеглага,
Не прызнаючы адлегласці,
Выпроствае
І выцягвае ўвыш
Нотр-Дам,
Як нацельны крыж.

# Абацкія вераб'і

Трэба ехаць у Францыю,
ў абацтва Раямон,
што пад страхой самога Парыжа,
каб уранні прачнуцца
ад вераб'інага шчэбету,
ад вэрхалу, ад гаманы бязладнай.
Ён зразумелы без перакладу,
на ўсіх кантынентах адзіны
клопат вераб'іны
пра крошку надзённую,
пра расінку сцюдзёную.
Слухаю вераб'ёў, услухáюся
у кожны
падшчэбет, прышчэбет, вышчэбет,
каб улавіць ушацкае вымаўленне,
каб забытае ўспомніць, прыгадаць,
бо маіх вераб'ёў, маіх местачкоўцаў
вывелі хімічныя прысмакі зямлі
разам з мошкамі нібыта шкоднымі,
разам з зёлкамі высакароднымі.
А можа, а раптам мае местачковыя
падаліся сюды ў эміграцыю.
І сядзіць верабей нахохлены,
як той яўрэй нахохмлены,
і адно паўтарае:
— Жыў, жыў.
Во і думаю,
што жыў ён пад страхою

хаты маёй аглухлай
без маміных
*пылі-пылі-пылі,*
*села-села-села,*
*кыці-кыці-кыці,*
*аюсь у хлеў, аюсь у хлеў...*
І сорамна за цвялілку-пагрозу:
— А я тому вераб'ю
калом ногі пераб'ю.
Ні кала ў мяне, ні двара.
Хоць кол на галаве чашы,
не разумею, каму мае вераб'і
перашкаджалі, як некалі
Кітаю, што акрамя пораху
шмат яшчэ чаго выдумаў.
І ў думках прашу ў вераб'ёў выбачэння:
— А я тому вераб'ю
туга ножку пераўю
туманом ці бяростаю,
калі вывіхнуў,
хай выпроствае...

Дзякуй, абацтва,
што разбудзіла мяне вераб'ямі.
Можа, яшчэ прычакаю пачуць,
як абацкіх,
сваіх вераб'ёў
ушацкіх...

# Абраза самоты

Няма такой самоты, у якой бы
не знаходзіўся яшчэ нехта.

Грыгорэ Віеру

Пасля кароткага замыкання
ў сабе
душа адмыкаецца
недаверліва,
каб адразу ж замкнуцца,
толькі адчуе,
што хочуць абразіць
яе самоту.
Іржой на ключы
іней стомы калючы
стыгне.

# Турыстычны верш

У лесе экзотыкі
Будзь пры сваім тапары ж,
Каб насекчы галін
Для казытлівага дыму.
Гід захмялелы — спакусавокі
Начны Парыж
Павядзе
Па ўсіх лабірынтах інтыму,
Дзе на практыцы
Вычарпана да дна,
Даўшы свой плён
І антыплён,
Спрадвечная тэма:
Ён і яна,
І нават заменена на
Яна і яна,
Ці на
(Тут здзівілася б, пэўна,
Залёва Нана,—
Бо ашукваецца працягу закон) —
Ён і ён.
Ды секс
Вачыма галоднымі есць,
Маладым расчыняючы
Брамку і сені.
З гадамі секс,
Як буркатлівы цесць
Альбо, як той сабака,—

На Сене,
На вуліцы Сен-Дэні,
На пляцы Пігаль
Напамінае пра смагу.
Грамадскую думку як ні кагаль,
Прытулак трэба няўцерпу-тулягу.
І раіш сабе,
Закончыўшы ў думках трынаж,—
Хай лепей плоць
Пасмягне, пагаладае.
Сябе пераконваеш —
Сакаўней айчынны сенаж,
Чымся замежная
Мурава маладая.

# Слых бяссоння

Абразе балюча — яе не крані!
Адкідаўся гнеў,
Адстагнаў, адскуголіў.
Ідзе абыякава па цішыні
Гадзіннік,
Бясшумны, як алкаголік...

# Калі ласка

Калі ласка, акіян, цішэй!
Паскакаць планеце балазе
Дзеўчынёшкай на адной назе —
Выліць шумную ваду з вушэй...

# Паўдзён на поўдні

Аблачынка язык высоўвае —
Так пякло анадоень.
Паўдзён:
У даёнкі лазовыя
Вінаград дояць.

* * *

Парыжам трэба загрузіцца
Ды так,
Каб потым нязмушана
Ён усплываў са дна
Свядомасці,
Імгненнасці,
Замілавання,
Як поўня затанулая
Маладзіком,
Як мілосць загубленая
Успамінам,
Як забыццё маладое
Старым жыццём,
Паўтараючыся,
Паўтараючыся,
Паўтараючыся,
Да выразнасці.

# Людажэр

З людажэраў усіх,
што жылі на зямлі калісьці,
самы рахманы,
самы жаданы —
ліфт.
Ліфт радавы арміі,
што завецца ліфтвафэ.
Ён глынае, глынае, глынае
закаханых і занядбаных,
прайдзісветаў і летуценнікаў,
гультаёў і старэннікаў,
навукоўцаў, службоўцаў, чыноўнікаў,
паэтаў з верлібрамі ўласнымі
і з чамаданамі падрадкоўнікаў.
Але, глынаючы штохутчэй
усіх жывых,
вачэй не заплюшчваючы,
назад вяртае іх
цалюткімі.
І гэтак цэлымі суткамі,
месяцамі,
гадамі
глынае, ледзь месцячы,
з цямна да цямна,
а па начах галадае.
І ўстаўшы раней,
пакуль наш пад'езд спіць,
чакаю, пакуль ён рыпіць

заспаны няспешліва,
звяртаюся, нібыта
наш незлічонакватэрны дом,
маналітна,
як да шаноўнага пана,
да ліфта:
— Праглыні мяне першага,
дабрадушную ляпу шырэй ашчэр,
добрай раніцы,
людажэр!

# Сярэдні амерыканец

Сярэдні амерыканец,—
Ці той,
Што на лёс наракае,
З бакоў народ,
А ён пасярод.
Сярэдні,
А што ў ягонай сярэдзіне,
Мяне не папярэдзілі.
Можа, міна
Замаруджанага дзеяння.
Можа, лепш
Не праходзіць міма.
Але дзе яна?
Можа, проста
Кіслая міна
Для непрыемнага напаміну?
Ці ён, як
Наш серадняк
З трыццатых гадоў,
Жыве ў доўг
Спадзяваннем на лепшае.
Калі не куецца,
Плешчацца.
І толькі вяльможны пан
Акіян
Атлантычны
Разгойдвае ўранні
Чэрава.

Яго не тычыцца,
Хто сярэдні,
Хто крайні,
У яго канатныя нервы.
Дый ён
Перабівацца навінны
З сярэдзіны напалавіну.

# Цыганы Амерыкі

Вас не важана, не мерана,
Вы без біркі,
Без цаны,
Негры —
Цыганы Амерыкі,
Цемнаскурыя паны.

Валасы вуглеюць дыбарам
На спякотнай галаве.
Спаць даецца права выбару —
На асфальце ці траве.

Кажуць,
Вы гультаяватыя.
Сонца ў жылах, як віно.
Ваша ўсмешка
Цемру сватае —
Чорна-белае кіно.

Люду белага праплешыны
Відняць звечарэлы лёх.
Выцыганіць долю лепшую
Абяцае
Чорны бог.

І ад берага да берага
Зубы белых хваль відны.

Цвеліце вы бога белага
Чорнай скурай,
Цыганы.

У вачах ні гнеў не гасіцца,
Ані смех —
Абы не чах.
Толькі сонейка цыганскае
Вам спрыяе па начах.

## ?

Я сніў чужыя гарады
Ці я іх толькі бачыў?
Я сам губляў свае гады
Ці нехта іх растрачваў?

Я сам разменьваў дабрыню
Ці хто займаўся менай?
Я глух, нырнуўшы ў мітусню,
Ці хто ў глушы каменнай?

Мне колькі дадзена майго
Жыцця кумой маною?
Каго спытаць, сябе, таго,
Хто быў таксама мною?

# Валун Караткевіча

Сізіфава табе вядома праца.
Ты колькі жыў, варочаў валуны,—
Каб пачалі сыны
За розум брацца,
Каб апрытомнелі твае сыны.

Няўдзячнасці глухімі валунамі
Табе плацілі добрыя дзядзькі
За тыя, што даверліва луналі
За хмарамі вякоў,
Твае радкі.

І ён,
Валун знямелага ўтрапення
І плачу нашага,
На грудзі лёг
Тваёй магіле.
Сосны прарыпелі,
Жагнаючы зеленарука лёх.

Як возьме
Бог
Сваіх даўгоў папірус,
Згадае і аб нашай старане:
Там Беларусь,
Дзе Караткевіч вырас.
І адпачне
На гэтым валуне.

# Памяці Ераніма Стулпана [1]

Мне дужа карцела самому,
На момант самотнаму,
Паглядзець
Рэхакаменную Рыгу.
Ды варта было прыляцець
Самалётам надвор'ебоязным
Ці марудлівазакалыхлівай «Чайкай»,
Як сустракалі мяне
Еранім,
Віктар,
Андрыс —
І Рыга рабілася
Да незразумеласці зразумелай
І да суму вясёлай,
І ўсе,
Хто праходзіў,
Хто сядзеў за столікамі,
Каму галава балела,
Рабіліся роднымі.
Мы маладыя былі,
І маладзела намі старая Рыга,
І слова *Labi,*
Што азначае добра,
Гучала ў сусветным маштабе.
І кот марцовы,
Ці па-латышску рунціс, курняўкаючы,

---

[1] Вядомы латышскі паэт, сябра Беларусі.

Дакладней курмаўкаючы,
Пытаўся, дзе каханка:
— Kur mauka?
Кур маўка?
Пры перакладзе знікала
Адценне млоснасці і нецярпення.
У арыгінале ўсё заўсёды дасціпней.
Я сам з трымценнем затоеным
Пазіраў на рыжанак,
Усё яшчэ помнячы тую,
Што мяне, сямікласніка,
Цалавацца вучыла, жартуючы,
На лугавінцы ва Ўшачах.
Еранім звычайна галаднавата
Пазіраў на дзяўчат у Мінску,
У маіх Ушачах,
Куды прывозіў яго
Сабрат па Вышэйшых Літаратурных курсах
Уладзімір Караткевіч.
Сёння прыляцеў
Вышэйпамянёнай «Чайкай»,
І Рыга прыглухла адгукаецца
Пошчакам крокаў маіх
Па камянях гулкіх.
Няма цябе, Ераніме,
А Мінск прыглух, бо не стала
Вернага сябра твайго і майго
Уладзіміра Караткевіча.
Віктар недзе ў Латгаліі
Садзіць бульбу на гародзе ў маці,
Андрыс змагаецца за ўмацаванне міру,
Як латышскі калега
Нашага Пімена Панчанкі.
Помніцца, калі загнаў я цябе ў тупік
Пытаннем, а як па-латгальску
Будзе караблік.

Пыталіся ў Андрыса, у Віктара,
У вядомага скульптара латгалкі Зале,
Ніхто не ведаў, не помніў.
І тады ты, Ераніме, адказаў,
Што Латгалія не мае мора,
А значыць, формы *караблік* няма.
Няма цябе, Ераніме,
І мне самому,
Самотнаму і нямому,
Можна разглядаць і вывучаць
Спачатку Рыгу.
Толькі з-за кожнага павароту вуліцы,
З кнігарні,
З вінарні,
З квятарні
Нехта выходзіць да цябе падобны,
Ераніме.

# На ўзмор'і

*Андрысу Веяну*

Неба ўзыходзіць
адразу за крыгамі,
Грудзяцца крыжыны
гузам на гузе.
Гоняцца следам
за ўласнымі крыкамі
Дзікія шэрыя гусі.
Гэта спрадвечная
светам засведчана
Цяга да роднага
ўзлётамі краю.
Шэрымі пырскамі
шэрага вечара
Ціха чародка згарае.
Можа, на возера Вечалле
з выраю
Сёння вяртаюцца
гусі.
Млечнай сцяжынай,
да вераду звыклаю.
Крыкі іх мёдам загуслі.
А далягляд то вузее,
то шырае.
Вернуцца ўрэшце,
як ні таргуйся,
На пакаянне
з далёкага выраю
Одуму смутныя гусі...

# Дзед

Андрэя Галвіньша, дзеда свайго,
Я не бачыў ніколі,
Хоць засталіся рэшткі старання яго
Далёка ва ўсім наваколлі.
Зрабілі яго Галовіным
Царскія пашпартысты ці пісары —
Кепікі д'ябла лысага:
Дзе каровіна, дзе валовіна,
Пасля разбяруць на рынку!
Я цяпер разумею,
Дзеду хацелася ў Рыгу
Пад посвіст ушацкай завеі...

І калі ў сорак чацвёртым зімой
Сусед,
Што на пошце служыў не ямшчыком,
Адшкадаваў «Букварь»
І буквар стаў мой,
Я да паперы белай,
Як да бяросты,
Проста
Туліўся шчакой.
Абуты і апрануты, лічы, напалову,
Грэўся я каля кніжкі халоднай,
Дзе значыўся аўтар
(Слова гэтае зразумеў пасля я)
Галовін,
Ініцыялаў памяць мая не даслала.

Чакала лета
Мая качанная стрыжка.
Мне здавалася — гэта
Дзедава кніжка.
Наогул, пра дзеда
Трэба казаць адпаведна
Толькі добрыя словы,
Ну ўзяць хоць бы тое,
Што дзед,
Як пасля ўспаміпала бабуля, прыстойна
Ведаў асноўныя еўрапейскія мовы.
Асабліва паважаў нямецкую
Як чалавек майстравіта-кемлівы
І таму перапісваўся, ці ліставаўся
З немкамі,
Якіх тады ставала
У Полацкім краі ў маёнтках.
Праз любоў гэтую да нямеччыны
І пацярпеў ён,
Бо падчас першай імперыялістычнай
Як нямецкі шпіён небяспечны
Трапіў у Полацкую турму,
Пашанцавала дзеду майму,
Што ён не доўга пакутваў,
Бо вызваліла дзеда
Рэвалюцыя Лютаўская,
І з палітычнымі вязнямі разам
Пад чырвоных сцягоў палыханне
Вяртаўся дзядуля тым часам
Да бабулі маёй Маланні.
А ў Полацку дзед, гуляка адменны,
Не супынены ні бабчыным,
Ні боскім страхам,
Загуляўшы, ураз пусціў прахам
Грошы, сабраныя на дом каменны.
І, магчыма, не ў апошніх штанах

Вясёлым мужчынам,
Не ў Рызе, не ў Гатчыне,—
Механікам па млынах
Апынуўся мой дзед на Ушаччыне.
У пані Кацярыны
Працаваў не багата год.
Да нашага часу яшчэ,
Качаючы каменьчык, як успаміны,
Рэчка Крывуха цячэ.
Дзе стаяў млын,
Там прыкладна цяпер лёнзавод,
А вышэй — замчышча,
Што і пры дзеду з бабай маімі было
Тое самае, стрымлівае вякоў нахлын.
Мама расказвала, як спаралізаванага
Дзеда майго Андрэя
Белапалякі як пана
На снег выцягвалі — грэлі,
А ён лаяў іх па-польску
Устойлівымі ўшацкімі словазлучэннямі.
І ожэлабялае войска
Гнеў свой змякчала знячэўку
І не так свалачэла.
Пасля вайны адразу
Вучыўся я ўтрымліваць у памяці фразу.
Пад дыктоўку
Наталлі Якаўлеўны Латышавай,
Яна да вайны
Кухарыла ў санаторыі Баркоўшчына.
Пэўна ж, ад латышоў
У продкаў была душа,
А ў партызаншчыну,
Дзе ў супе не часта плавала костчына,
Самому Лабанку гатавала
І каля яго, можна цяпер прызнацца,
Бывала,

Мы, маленькія партызанчыкі, ласаваліся,
Да багацця маючы стаўленне класавае.
Мы на белае дзіва
Глядзелі як заварожаныя
І Латышысе дапамагалі да змогі,
І таму паспыталі
Даваеннага дзіва — марожанага
Задоўга да Перамогі.
Дык вось пасля вайны,
Да пісання няўмелы, и не ляны,
Працягваў я перапіску з Рыгаю,
Пачатую ў пятнаццатым стагоддзі
Ў дагаворах
Полацка,
Што пісаліся пры свечках і зорах.
Як і стагоддзі,
Сплылі дагаворы з крыгамі,
А ў іх гаварылася
Пра вольны праезд купцоў
З абодвух канцоў,
Пра меры роўныя і адпаведныя.
Не думаю, каб Наталля Якаўлеўна
Пра гэта ведала,
Але яна пісала сваёй сястры Ганне
Пра ўсе хваляванні.
Здавалася, яна дыктавала мне
Разам з Ушачаю.
І ў канцы не забывалася
На цэнах спыніцца,
Колькі каштуе жыта, пшаніца,
Сала, масла быдлячае.
І я, худзенькі, як пісчык,
Стараўся, малы перапісчык,
Нібыта вяртаўся ў гады далёкія,
Аж не паспяваў зрабіць,
Здаралася, ўрокі я.

Чаму я пра дзеда,
Чаму я пра Рыгу?
Ці, можа, пачуў за вакном адлігу,
Ушацкую тую,
Якая кожнаю кропляй дыктуе
Пісьмо да продкаў, у Латвію,
У даўніну, як завея, кудлатую?

Яшчэ я ўспомніў Яніса Судрабкална,
Які мне здаваўся падобным
На
Дзеда майго майструна
Андрэя Галвіньша.
Я дзеда не бачыў ніколі
І таму адчуваю прагал у душы,
Памяць мая без яго,
Як хата без столі.
І калі перакладаў вершы
Сваіх сваякоў латышоў,
Здаецца, што першы
Слухач мой прыйшоў
Паслухаць унука, якога не бачыў,
А частушка цвеліцца па-дзіцячы:
*Андрэй, не дурэй,*
*Не дзяры сарочкі,*
*Ты не праў, ты не ткаў —*
*Хадорыны дочкі.*
Пра Хадорыных дочак,
Пра сарочкі
Пра ільняныя
Чуў пэўна дзед.

Травее след.
Смяецца слядочак.
Упрочкі ўцякаюць сарокі-сарочкі.
А памяць ные.

* * *

**Ты, як пясок на Нідзе,—**
**І недзе**
**І нідзе.**
**Не едзе,**
**Не ідзе**
**Той час,**
**Ды ён надыдзе,**
**Каб выгукнуць** *бывай*
**Мне і майму чаканню,—**
**Я ад яго ўцякаю**
**У іншы край —**
**То ў май,**
**То ў верасень,**
**То ў люты,**
**А дарагой валюты —**
**Гадоў пад самы край.**
**Чым аддаваць даўгі**
**Нясплатныя, зямныя?**
**Не чую гаманы я**
**Адтуль,**
**Дзе берагі**
**Не сыдуцца ніколі,**
**З маўклівай стараны,**
**Дзе смутак вараны,**
**Адзін**
**Ва ўсім наўколлі,**
**Астаткі мурагу**
**Скубе,**

І ад іржання
Яго
Званок іржавы
Бяжыць гукаць дугу...
Маўчыць пясок гадоў.
Маўчыць каса марская.
Каса...
Яна шукае
Сляды маіх слядоў...

# Вязень

*Алегу Сурскаму*

Спачатку вочы выесць дым,
А потым полымя заплача.
Рука набожная ламачча
Падкіне.
Злыбяда не ў тым,
Сучок падкіне, ўкуліць воз.
Хто на агні,
Таму ўсё роўна
Канаць
Раскрыжана, грахоўна,
Цвяліць бунтоўна ўласны лёс.
А безграхоўныя яны,
Што думку аддалі на мукі,
Ад попелу адмыўшы рукі,
Не будуць адчуваць віны.
А вязень лютага агню
Наступніка не папярэдзіць.
Наступнік цемру развярэдзіць,
Агнём
З агню ўсміхнецца дню.

# Пушкін

## Трыпціх

### I. І туга напілася з шалома

А задоўга да чорнага дня
Ёй імя выбірала жалоба.
І туга напілася з шалома,
І згубіла сябе глыбіня.

Учарніла Расіі чало
Змрочнай стужкаю
Чорная рэчка.
Свой працяг брала
Даўняя спрэчка,
Дзе зацяліся тхло і святло.

У сусвеце славянскіх вачэй,
У славянскай няўтольнасці сэрцаў,
У свяцілішчах душ аднаверцаў
Чорны стрэл праграмеў балючэй.

Боль адчуў сябе гаспадаром,
І ў далёкай тады Беларусі
Зімавусы ратай схамянуўся:
Што ён,
Перад грамніцамі гром?

Толькі кулі відушчай такой
Не было і ніколі не будзе,
Каб прабіла збалелыя грудзі
Справядлівай любові людской.

Ратавала замова радкоў.
Жах ляцеў груганом
З Чорнай рэчкі.
Зоркі, як памінальныя свечкі,
Ціха ўсхліпвалі ў небе вякоў.

## II. Дарога Пушкіна

Не цераз,
А праз Беларусь ляжала
Дарога Пушкіна,
І ўся яна,
Расійская прыгонніца-дзяржава,
Напятая,
Як поцяг бізуна,
Зацята
За выгнаннікам сачыла,
Круціла шыю цяжка галава.
Мардзеў вялікахамскасці сычыла,
Пуляла вочы
Сытасці сава.
Выгнаннік не на вёрсты,
А на нівы
Глядзеў.
Гібеў забыты богам кут.
І аўтар быў яшчэ не ананімны
«Тараса на Парнасе» —
Бегаў тут.

На Ўшаччыне,
Дзе Быкавы ды Броўкі,
Свой род вялі Дуброўскія ўзапал,
Каб у другой Айчыннай
Быў Дуброўскі —
Славуты партызанскі генерал.

Паэт быў родны слепаватым хатам,
Ён заглушаў абраз змяіны сык,
Самадзяржаўнае Расіі атам
Ён расшчапіў,
«Всяк сущий в ней язык»
Пачуў.

Былой забітасці атрускі
З-пад капытоў каціліся ў равы,
І дол, і дух,
І нораў беларускі
Паэт сагрэў,
Як промень яравы.

Яшчэ бяда,
Як барада старога,
Трасецца на знясіленых палях.
Ды Пушкіна скразністая дарога
Праз Беларусь прайшла,
Як Млечны Шлях.

## III. Гавана. Доўгія вейкі здзіўлення

У акружэнні экзатычных дрэў
Стаіць на глебе, перагрэтай скварам.
Не бронзавы —
Ён проста абвятрэў,
На шчодрым сонцы высмугліўся тварам.
Даносіць ветру зморанага ўзвеў
Пустэльні жаль,
Заручанай з анчарам.

І полаз не заенчыць нараспеў,

І лістапад
Не ўкленчыць неўскім хмарам.
Не ўстрашыць час.
Ні снегу сінізна.
Ці вейкі доўгія ўзняло здзіўленне?
Ці гэта зелянееецца сасна,
Дачка гаванскіх сосен, і яна,
Як там, дзе сівярэе сінізна,
Нагадвае дзівоснае імгненне.

# Маленне
# на выдмах Ніды

З вулея даўніны,
З лятва
Слова ліўневае
*Літва*
Распагоджана вылятае,
Як пчала залатая,
Як бурштынінка,
Як смала,
Што ад вечнасці
Залацілася,
Ціхай знічкаю
Закацілася
З неба Балтыкі,
Са стала
Прашчура,
Як гарошына,
Пакацілася
Насцярожана
Долу
На даланю святла.

Як пчаляр,
Смалакур,
Як араты
Адбывае
Зямныя раты,
Адбівае
Зямныя паклоны

Слову
Жрэц,
Думавержац шалёны,
Як апошні паганец
Зацяты
Апантанец
Вітаўтас Бложа.
Памажы яму,
Божа!

# Сакавік на ўзмор'і

Ураннi спiцы ледзяшоў б'ючы,
Зiма ўсё вяжа —
Досыць пражы мае.
А швачка-электрычка прашывае
Адно i тое шво крыса начы...

# Бурштынінка

Цябе на бераг маёй самоты
прыбой спагады прыбіў
бурштынінкай
Мора якое завецца Лёсам
правагаўшыся
ўсё маладое ранне
расшчодрылася
хоць пад вечар
Бурштынінка
кропля смалы спякотнай
у якой пякельна кіпелі
грэшныя думкі
і цераз стагоддзі стагоддзяў
перадаліся
па генетычным кодзе
жаданне працягу ў прасцягу
працягу ў шаленстве
у апантанай пяшчоце
у неадумлівым забыцці
Бурштын шліфуецца ласкай
яму адгукліва перадаецца
пакутлівая цеплыня
і золка яму
ад сіверу недаверу
але ўвабраўшы ў сябе
рудую гарачыню сонца
свеціць бурштын
разганяе раўнівую цемру

аблуднай душы
Бурштынінка
чым цябе шліфаваць
чым адагрэць
як адагрэцца душой азяблай
як не заблудзіцца ў цемры
ідучы на тваё святло
Падкажы

* * *

Прылівы і адлівы
На Куршскае касе
Не лічыць час імклівы.
Няўжо і мы, як лівы,
Знікаць павінны ўсе.

Клін жураваў журлівы,
У вырай летучы,
Гукае:
— Лівы-лівы!
Пытаецца:
— Калі вы
Ў нас возьмеце ключы?

Каб адамкнуць астрогі
Без ценяў, без вады.
Знасіліся дарогі
І вашыя парогі,
Сатлелі невады.

Няўжо зімаабрусы
Туман засцеле свет,
І з неба:
— Беларусы,
Дзе вашыя прымусы? —
Спытае клін ракет.

# Трыпутнік

* * *

Калі прыходзіць да канца дарога,
Асмелься запытаць сябе самога,
Што ты паспеў зрабіць?

* * *

Як грошы, людскія гады,
Удосыць — не лічыш тады,
Увобмаль — дрыжыш над капейкай.

* * *

У люстэрка глядзі ў несхаванай журбе,
На імгненне запомні жывога сябе
Перад тым, як зрабіцца зямлёю.

* * *

Калі чакання невады з вады
Выцягваюць сушыць твае гады,—
Час пазнаёміцца з самім сабою.

* * *

Нас кожны дзень, прызнаць мы мусім гэта,
Цясней абносіць лютым дротам гета,
Якое сумна старасцю завецца.

* * *

Нашай існасці кволай пылінку
Затрымае жыццё на хвілінку,
Каб навечна аддаць небыццю.

* * *

Мы з гадамі, як ракаўкі, дзе
Глуха мора надзеі гудзе,
Калі вечнасць падносіць да вуха.

* * *

З намі час, як і з пяском дзіця,
Забаўляецца, праз пальцы цэдзіць —
І здзімае з далані жыцця.

* * *

Жывём наіўнасцю святой,
Наступным днём, а светлы той,
Калі табе прысніцца мама.

* * *

Як назваць яго, Лёсам ці Богам,
Дзякуй, што ашчаслівіў астрогам,
Дзе ў няволі нам вольна нарэшце.

* * *

Пакуль жывеш, ты сніш свой сон,
Прачнешся — і сканае ён.
Сон твой дагледзіць спадкаемца.

* * *

Цяпер, каб цябе не было,
Прыдумаў наноў бы ўсё роўна
Цябе, апрануўшы ў святло.

* * *

Мае гады з характарам жаночым,
На іх забыцца варта мне на міг,
Яны адразу ў гвалт: «Мы ўвагі хочам!»

* * *

Каханне і веру не трэба
Усім выстаўляць напаказ:
Душа толькі чуе і неба.

* * *

Прытомлены жыццёваю дарогай,
Сам у сябе заглядвай з асцярогай:
А раптам раб там?

* * *

Усе пад небасклепам мы, як садавіна,
Што ведаць тэрмін свой сама павінна,
Ды мы яго не ведаем ніколі.

* * *

Лісцё нашых дзён лістабоем нябыту сячэ,
Калі маладыя, нічога не страшна яшчэ,
Пад старасць ужо нам не страшна нічога.

* * *

Мае весялосць дзіравы кубак,
Пазірае смутак белазора.
Радасць разлучае, зводзіць гора.

* * *

Родны кут, як гняздзечка ў траве,
Там — дзе маці табою жыве.
Дзе ён, калі памірае мама?

# Луска

У кашалёк луску, луску
Насыпаць гаспадыню ўпрошвай
На Новы год —
І ў кашальку
Ўвесь год ты мецьмеш
Мора грошай.

Прыцьмее серабро лускі —
З вякоў трывалая валюта,
Адчуеш, як прыбой марскі
Бярэ ў ціскі
Трывогай люта.

Лацвей —
Сцвярджаюць латышы —
Ісці ў жыцці
З такой гатоўкай —
Кішэні лёгка і душы.
Хай поўня грузне
Залатоўкай!

На кірмашы глыбінь
Прысні
Сябе,
Ды толькі скеміць здолей —
Луской хлусні і мітусні
Ніяк не разлічыцца
З доляй!

* * *

Лебедзь шэры малады.
Пасталее — пабялее
Ад вады,
Ці ад бяды,
Ці ад ранняе завеі,
Што знянацку прыляціць
Сілай турба-рэактыўнай,
Каб руку пазалаціць
Мору ледзяною грыўняй.

Белы,
Быццам на яго
Чарната турбот не ліпне,
Лебедзь,
Звыклы да ўсяго,
Мыецца ў вясёлым ліўні.

Час націсне на рычаг,
Знойдзе смутку пашырэнне,
Белы лебедзь
На вачах
У нябёсаў пашарэе.

Зноў паўторацца гады,
Як бяда касу ні клепіць,
Лебедзь шэры малады,
Развітальны —
Белы лебедзь.

# Чакаю

Я мёртвага не бачыў Шабана,
На Нарач збег —
Сабе я паўтараю.
Забрала, кажуць, сквапная вайна,
Яго зашлюбіла зямля сырая.

А мне Яўгенаў смех чуваць яшчэ,
Смалісты смех, як рэха баравое.
Няўжо карэння дождж па ім цячэ,
Ён з цемры выбіваецца травою?

Яўгенава нішчымная душа
Па белым свеце нашча вандравала,
Не рвалася да поўнага каўша
І хціўцам
Злосць і сытасць даравала.

Прыстала вандраваць і дараваць,
Адной чужое гора гараваць.
І захацелася адчуць душы
Раллю, якую лашчаць лемяшы.

Ён словы цёпла высяваў з сяўні,
І рунь гусцела на ўраджай густая.
Смалісты смех згубіўся ў цішыні.
А я Яўгена з Нарачы чакаю!

## Белы сакавік

Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.
Стома на кожным крыле.
Зорам прадзюбнуцца сорам.
Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.
Юшыцца вея, але
Крышацца крыгі з дакорам.
Лебедзі ў белай імгле
Глуха вяслуюць над морам.

# Хвала паперы

*Навуму Кісліку*

А дрэва ведаў
Цяжка карылася,
За вайну ўкарэла кара.
А энцыклапедыя
Не курылася,
Сварылася іскрамі з ёй махра.
Не падумалі пра тыл і пра фронт
Бракгаўз і Эфрон.
Мары курцоў
(Гэта ўжо дэталі)
У тыле збыліся
У шпіталі,
У вінадарным Тбілісі.
У пяціпавярховым корпусе
Педінстытута
Крычалі, стагналі горка,
Курчыліся ад пакуты.
Бібліятэка не запылілася,
Каб кніга дзе заваліласся.
А кніга любая выдатная
Прыдатная
Пад курыва.
Смаліла махру братва салдатная
З-пад Смаленска,
Іркуцка,
Турава.
А ўчарнела-чарнявы
Салдацік з асколкам у галаве

За дзівака слыве,
Нібыта да ўсіх не мае справы.
Да дзірак зачытвае энцыклапедыю —
Непаважаную кнігу курцамі.
З томам снедае,
З томам абедае,
Вядома,
Дні свае скарачае.
Сем месяцаў лютаснага чытання
Пад усмешкі дзядзькоў несуровыя
Усё ўмесцяць,
Раўнавага настане,
Але і сёння ўспамін скіроўвае
Ягоны верш,
Паэму,
Баладу
У тую палату
У вінадарным Тбілісі,
Дзе першыя рыфмы ўзвіліся.

Хвала паперы,
Што не курылася,
Хвала таямніцы,
Якая адкрылася!

# Прэлюдыя кашмару

Вандроўныя залысіны пяскоў.
Віхроўе выдмаў.
Рыскі нізкалесся.
Адчай прыбою,
Як адчай вякоў,
Не захлынуўшыся пяскамі,
Лезе
На цвердзь зыбучую,
Каб стаць нічым.
Здаецца, ўвесь пясок ад радыяцый
Не астывае.
І яго баяцца
Свінцовыя чароды аблачын.

* * *

Я разумею тугу стала,
З якога выцягнулі шуфляду,
Хай не было там
Пэўнага ладу,
Ды радасць прымхлівая жыла,

Што час парадак свой навядзе,
І вэрхал сцішыцца сам сабою,
І цень зняверу парой любою
Растане хмаркаю на вадзе.

Абрус спагады сцялю сталу,
З якога выцягнулі шуфляду,
Баюся ўсмешлівага пагляду,
Маркоце вечара шлю хвалу.

І адчуваю,
Як сціхлы стол
Мне спачувае абавязкова,
Бо ён таксама чакае слова,
Што прымушае хістацца дол.

* * *

Натуршчыкі, падзёншчыкі мастацтва,
Супернікі натурыстых майстроў,
Вам лёс дазволіў сведкамі застацца
І перажыць уладу ўладароў.
Вы захавалі мудрае вар'яцтва,
Здзівіўшыся, здзіўляць усіх паноў,
Ад тлену ратаваць і ратавацца,
За жабракоў адказваць, за паноў.

Прыйшоўшы з Лонданаў,
З Бычкоў, і Парыжаў,
Цярпелі ўсё, а дух і нораў выжыў.
Вы за натуру мелі медзякі.
А потым вас шаноўна неслі ў храмы,
Не шкадавалі пазалот на рамы,
Каб за сваіх прызналі вас вякі.

# Пакора

*Валерыю Анісенку*

Хоць бяда начуе ў родным краі
Самапасам, як і лебяда,
Родны край сыноў не дакарае —
Па-бацькоўску кожнага шкада.

Родны край ласкава сына прыме,
Сын пакорна вернецца туды,
Дзе яго тугу ў растайным дыме
Павялі за небакрай сляды.

І забудуцца былыя страты,
Як тваю далонь кране далонь.
Праз вакно даўно забытай хаты
Засмяецца, як сусед, агонь.

Тут не будзеш ты адзін ніколі,
Тут твая прытоміцца хада,
Тут з табою доля і нядоля,
Тут твая віна, твая бяда.

Крыўды забярэ зямля сырая,
Напамін прыцішыцца ў журбе.
Родны край ніхто не выбірае,
Выбірае родны край цябе.

## Марк Шагал

Жыццё працякала —
І не стараўся
Залапіць гарбаты дах.
Губляў галаву
І не спяшаўся
Яе адшукаць.
Ягоны сусед Макар
Пасвіў цялят
Недзе ў Маркаўшчыне
Ці на Пескавацiку,
А ён пераганяў коз
З Елісейскіх палёў
На Млечны выган.
Козы былі з Віцебска,
Дзе дагэтуль
На глухаватай вуліцы
Чакае яго мураванка
І на падваконні
Гарaць бальзамінкі
Зоркамі малалецтва
У цёплым космасе
Незабытай бацькаўшчыны.

# Як на споведзі

*Карласу Шэрману*

Будзь як на споведзі
Перад сабой,
Перад сваім
Адчаем і дакорам,
Будзь як на споведзі
Перад сяўбой,
Перад сваім
Апошнім словазборам.

Сабе самому вер
І вер сябрам,
А лёс
Пакінуў іх
Не так багата.
Хай зрубам студні
Здасца
Стылы храм,
А храмам —
Матчына глухая хата.

Будзь як на споведзі
З зарой,
З расой,
Да грому звыкшы,
Цішыню асвойчы,
Пакуль не замахнулася касой,
Сябе самога
Выслухай аднойчы.

Зірні ў сусвет нябыту
І чакай,
Калі жыццё
Табой гаркоту споіць.
Ідзі ў даліну продкаў —
Даўні край,
З душой, пачутай
Богам,
Як на споведзь.

# Старанне

*Уладзіміру Някляеву*

Ты мяне папрасіў не старэць,
Маладосцю спагадлівы дружа,
Ды ў маю неімшоную клець
Між бярвеннямі ціснецца сцюжа.
Калі можаш, яе папярэдзь,
Каб ужо лютавала не дужа.

Не багатая клець на снапы —
Пяць дзесяткаў жыццё змалаціла.
Быццам аднаасобнік скупы,
У якога знасілася сіла,
Я з мальбою да кожнай капы
Сам, як колас, хілюся пахіла.

Хоць даўно ні сярпоў, ні снапоў
І камбайны цюкуюць салому.
Разам з ценем драўляных слупоў
Трэба з поля збірацца самому.
Хай старанне забытых цапоў
Абмалоціць і смутак, і стому...

* * *

Я сам сабе няраз даваў зарок
Не прысвячаць радкі свае нікому,—
Навошта выпускаць малечу [illegible] дому,
Навошта выпрабоўваць нечы зрок
І наганяць дакукаю аскому?

Але мяне не слухаюць радкі,
Так і карціць ім
Вырвацца за дзверы,
І толькі ўчуюць волю на паперы,
Паразбягуцца ў розныя бакі,
І я адзін, як верабейка шэры,

Чырыкаю і зноў даю зарок
Не прысвячаць радкі свае нікому,
Наіўных слоў ласкавую салому
Расцерушыўшы,
Быццам незнарок,
Зноў паддаюся звычаю старому.

* * *

Апошнія паэты яўрэйскія.
Каму чытаць ім
вершы свае на ідыш?
Старыя пайшлі да продкаў,
аглухлі,
адвыклі.
Моладзь не разумее.
Сабакі ў гарадках перадохлі.
Местачковыя вераб'і
ў апошнім калене
зваліся хіміяй.
Ні школ, ні вучняў.
Толькі словы
такія-сякія ўпалі
па дарозе
ў беларускую мову.
Мне цьмяна прыгадваецца,
наплыўна бачыцца,
як на перадваенны брук
ляцелі з вокан
кніжкі з незразумелымі літарамі,
нібыта па снезе
прайшлося пімат лапак птушыных.
Зачынялася школа
у мэтах адзінамоўя
альбо ўзаемапаразумення.
Хоць дагэтуль
столькі вякоў

Янка і Янкель,
Зося і Зэлда
добра адно аднаго разумелі.
Дарма што падшыванцы
Пыталіся ў крамара:
— Ці ў вас прадаюцца
свіныя падкоўкі?
Ляцелі кніжкі
сумнакрылымі кнігаўкамі.
Гляджу
на кнігавак беларускіх
і ўспамінаю
панылакрылых самотных
выгнанніц.

# Сум

Сум спачатку засяліў зямлю —
А пасля разбегліся дарогі.
Слова багавейнае л ю б л ю
Папрасіла ў неба дапамогі.

Адлучыў ад цемры светлыню,
Воды аддзяліў ад земнай цвердзі
Бог —
І ўзрадваўся,
І ўпершыню
Сум сябе запомніў сынам смерці.

Ходзіць сум за намі ўсе гады
Маладым апосталам адчаю,
Пазнае здалёк сляды бяды
І надзею хмура прывячае.

Бачыць неба наш дарэмны тлум,
Млечны Шлях зграбае па жарынцы.
Мы адыдзем —
Застанецца сум
На зямлі без нас
Па нас журыцца.

* * *

Беларусы —
Славянскай сям'і ізгоі
На планеце паразбрыліся,
Напалілі свае караблі ўсе,
Як вяртацца назад?
Благое
На сябе нагаворваюць самі.
Абязмовілі —
Немтурамі
За чужымі лясамі, гарамі
Сум, як сена,
Вязуць вазамі.

А хапок таго сена
Хмарка
Возьме
Дый прынясе на Радзіму —
І затужыцца пілігрыму,
І ўсміхнецца
У пекле Марка.

* * *

Хай сэрца заходзіцца глуха —
Жадання ў сабе не глушы
Пабыць
На вяршынях духу
І на глыбінях душы.

# Малітва наступнасці

Хай свеціцца імя Твае,
Беларусь,
У стронцыі, цэзіі, ліціі!
Як і ва ўсе вякі,
Душу быць ласкавай змусь,
Дазволь слязам,
Ужо радыеактыўным,
Ліцца.

Хай свяціцца імя Твае,
У палыновым вянку
Гаратніца.
Хай цвіце твой дзядоўнік
Калючы, таму што безабаронны.
У цябе на слыху перагукваюцца
*Радыяцыя і радаўніца.*
Чакаючы ў гнёзды буслоў,
Дагніваюць на ліпах бароны.

Хай свя́ціцца імя Твае,
Маці Сумная!
Хмару радыеактыўную
Хусцінай ад Бога
Ты на самыя вочы насунула —
Не чуеш, не бачыш
Нічога.

# Скуль?

На прывіды гор
І на прысак нізін
Гляджу
І дагэтуль не разбяруся —
Скуль будзе вяртацца
Блудны сын
На сумны парог Беларусі?

ЗМЕСТ

## Аз



## Букі

## Ведзі

**Барадулін Р.**

Б 24 Самота паломніцтва: Кн. паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 270 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00380-9.

Бородулин Р. Одиночество паломничества: Кн. поэзии.

Новая кніга паэзіі Рыгора Барадуліна «Самота паломніцтва» пачынаецца аднайменнай паэмай пра Францыска Скарыну, лера-паэмай — так арыгінальна паэт вызначыў жанр свайго твора. Лёс беларускага першадрукара паказаны як малая часцінка таго багацця — страчанага ці яшчэ не знойдзенага,— з якім праз усе часы быў духоўна дужы наш народ. Вершы і навелы, як працяг і завяршэнне кнігі, кампазіцыйна дадаліся да згаданай паэмы, хаця тэматыка іх разнастайная.

Б $\frac{4702120202-006}{М 302(03)-90}$ 44—89 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

Бородулин Рыгор Иванович

Одиночество паломничества

Книга поэзии

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Барадулін Рыгор Іванавіч

Самота паломніцтва

Кніга паэзіі

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак Р. М. Казлоў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар Я. Ф. Харко

ІБ № 2938

Здадзена ў набор 13.10.88. Падп. да друку 06.05.89. АТ 06782. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,95+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 10,14. Ул.-выд. арк. 8,09. Тыраж 8000 экз. Зак. 1901. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.